# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 30 ( 1837 ) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 28 ЛІПЕНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.


## ЦУД У БЕЛАВЕЖЫ

- Пятрусь,- аднойчы звярнуўся да мяне мой сябра, Станіслаў Банах, так як і я, працаўнік Белавежскага нацыянальнага парку, - часам трэба адрываць зрок ад зямлі, бо можна ўбачыць рэчы неверагодныя. Хадзі са мною, штосьці табе пакажу.

Затрымаліся мы пры групе 16-ці дубоў, якія растуць у Палацовым парку ў Белавежы, непадалёку ад прыродазнаўчага музея.

- Што ты там бачыш? - спытаў мяне мой сябра, працягваючы руку ў напрамку аднаго з дубоў.

Я аж енкнуў са здзіўлення. На месцы па адрэзанай тоўстай галіне, дыяметрам у паўметра, было відаць вобраз людской галавы. Пачалі мы са Станіславам набліжацца да дуба, каб дакладней прыглядзецца, але чым бліжэй падыходзілі, тым вобраз станавіўся менш выразны, аж зусім расплыўся. Вярнуліся мы назад на алею, сталі каля канадскай хвоі, і вобраз зноў зрабіўся прыкметным. Станіслаў потым паказваў незвычайную з'яву іншым сваім знаёмым, у тым ліку і экскурсаводам. Адзін з іх, Мікалай Патэюк, напісаў пра яе ў рэдакцыю „Газеты Вспулчэснай". Пасля надрукавання ліста, у Белавежы ўскіпела. Кожны, хто хоць крыху нечым цікавіцца, бег паглядзецца цуд - бо так пачалі называць з'яву. Пра цуд пачалі дапытвацца і

(Працяг на стар. 4)



**На месцы па адрэзанай тоўстай галіне відаць вобраз людской галавы. Фота А. Кэчынскага.**

## МЕСЦА ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Што важнае можна сказаць пра Сёмы навуковы калоквіум „Паміж Усходам і Захадам", які адбыўся ў Любліне 18-21 чэрвеня і канцэнтраваў увагу на гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны ды іхных узаема-адносінах? Перш за ўсё мела імпрэза міжнародны характар. Прынялі ў ёй удзел навукоўцы і палітыкі з Еўропы ды Паўночнай Амерыкі, у тым ліку і з эміграцкай дыяспары ў Канадзе і Злучаных Штатах, а таксама і ад украінскай, беларускай, літоўскай нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Варта заўважыць прытым, што прыехалі даволі вялікія прадстаўнічыя групы з сумежных рэспублік, асабліва з Украіны, Беларусі.

А што не ўдалося арганізатарам, каб прыдаць мерапрыемству больш высокі ранг? Чакалі прыезду палітыкаў фармату Браніслава Герэмка, таксама і з заходнесавецкіх сталіцаў. Не з'явіліся. Вядома, чаму: палітычны кацёл Усходняй Еўропы кіпіць, замест астываць, і ніхто не можа нічога пэўнага сказаць, што будзе там нават не цераз дзень, але і праз гадзіну.

Меўся быць славуты Часлаў Мілаш; даслаў толькі ліст у форме праграмнага свайго выказвання. Не вельмі каб прыемны для

(Працяг на стар. 7)

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

Разам з заканчэннем навучальнага года пачаліся выезды дзяцей на адпачынак. Сёлета, як і ў мінулым годзе, група нашых дзяцей адпачывае на Беларусі, а адтуль прыязджаюць дзеці на Беласточчыну. Арганізатарамі абмену выездамі дзяцей за мяжу з'яўляюцца розныя ўстановы. У апошні час усё шырэй навязваецца супрацоўніцтва паміж асобнымі школамі, раёнамі і царкоўнымі прыходамі. У пачатку чэрвеня ў Беластоку прабывала 40-асабовая група з Хойнікаў. На Беларусі канікулы пачынаюцца ад 1 чэрвеня, таму і ў гэты месяц дзеці маглі адпачываць у нас. Дзеці з Хойнікаў прыехалі ў рамках паразумення паміж цэрквамі парафіі Храма Усіх Святых на Выгодзе ў Беластоку і парафіяй у Хойніках. У гэтай групе былі дзеці, бацькі якіх выказалі ахвоту, каб дзеці ў Беластоку навучаліся рэлігіі. Таму гэтая, а потым і наступная група дзяцей з Хойнікаў (яна прыехала на змену першай у другой палове чэрвеня ) два разы ў тыдзень прыходзілі ў царкву на заняткі. Вучылі іх айцы Ян Федарчук, Анатоль Гайдучэня і Анатоль Конах. Горад Хойнікі ляжыць у Чарнобыльскай зоне. Таму вельмі важна, каб дзеці адтуль хоць на некалькі тыдняў змаглі выехаць у іншыя, чыстыя раёны. Арганізм дзіцяці мае здольнасці рэгенеравацца, ачышчацца хоць бы ў нейкай ступені ад шкодных для яго рэчываў, калі толькі трапіць у лепшыя ўмовы. А большасць дзяцей з Чарнобыльскай

( Працяг на стар. 5 )



**Вядзе сустрэчу айцец Ян Федарчук.**




- 48 -

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Кангрэс беларусістаў у Мінску быў праявам новага ў падыходзе Радзімы да раскіданых па свеце беларусаў і да тых, хто ў свеце цікавіцца Беларуссю. Першы раз у гісторыі Беларусі з'ехаліся беларусазнаўцы з усяго свету, каб сказаць аб вывучэнні беларускіх пытанняў у паасобных краінах. Многія з тых, хто прыехаў на кангрэс, пабывалі ў Беларусі першы раз у сваім жыцці. Зразумела, што ўсе госці ўважліва прыглядаліся да беларускай рэчаіснасці, цешачыся ўсім пазітыўным у ёй і смуткуючы з прычыны ўсяго адмоўнага. Найбольш горычных рэмінісцэнцый выклікаў заняпад беларускай мовы. Многія з дакладаў на кангрэсе адносіліся да літаратуразнаўчай або мовазнаўчай тэматыкі. Удзельнікі кангрэсу прагна прыслухоўваліся і прыглядаліся да ўсяго таго, што прадвяшчаюць беларускія адраджэнскія з'явы. Я прысутнічаў у літаратурна-перакладчыцка-фальклорнай секцыі, удзельнікі якой з асаблівай увагай адносіліся да маладых узыходзячых беларускіх літаратурных сіл. Тут часта паяўляліся прозвішчы тых маладых паэтаў, што ў сваёй творчасці радыкальна перайшлі з пазіцыі інтэрнацыяналістычнай, якая ў беларускай рэчаіснасці абазначае пазіцыю рускую, на беларускую. Сярод гэтых маладых сіл паяўлялася прозвішча маладога, як усе гаварылі, здольнага паэта С. Некаторыя акрэслівалі яго сімвалам беларускага адраджэння. Удзельнікам нашай секцыі, што называецца, пашчасціла. Паэт С. асабіста паявіўся на пасяджэнні нашай секцыі. Немалым было наша здзіўленне, калі мы пабачылі, што „сімвал" дэманстрацыйна прывалок чатыры бутэлькі піва і не менш дэманстрацыйна паставіў іх на стол і вельмі дэманстрацыйна пачаў з гэтых бутэлек пацягваць. Вельмі нас здзівіла, што калі піва пачало дзейнічаць, паэт С. „бэкаў" і пры гэтым „культурна" паўтараў слова „извините". На другі дзень „сімвал адраджэння" паявіўся ізноў. У руках нёс любімыя бутэлькі. Якраз мне было даручана весці дэбаты. Паўпрытомны „сімвал" фыркаў, буркаў, гаркаў, выразна перашкаджаючы і тым, хто чытаў даклады, і тым, хто слухаў. Апагей попісаў паэта С. прыпаў на час выступлення дакладчыка з Ольштына, прафесара Пілата, які гаварыў аб драматургіі Дударава. У пэўным моманце „сімвал адраджэння" ўскочыў на крэсла і палез нагой на стол, выкрыкваючы пры гэтым нейкія невыразныя словы. У такім складаным становішчы звярнуўся я да гаспадароў з просьбай, каб навялі парадак. Першай да „сімвала" кінулася нейкая жанчына. За ёй рушыў Янка Брыль, за ім удзельнік польскай дэлегацыі Часлаў Сэнюх і яшчэ некалькі іншых. Схапілі яны гэты „сімвал" за рукі і за ногі і паваладклі праз усю залу ў бок дзвярэй. „Сімвал" беспасяхова шарпаўся і крычаў: „Люди, смотрите! Впервые в истории из этого здания таким образом выносят поэта!"

Пасля ўрачыстага вынясення з вестыбюля даносілася адраглоссе шарпаніны, якое закончылася моцным ударам. Як пасля высветлілася, „моцны ўдар" заключаўся ў тым, што паэт С. зваліў з пастумента бюст „правадыра рэвалюцыі", чым, несумненна, трывалым спосабам упісаўся ў гісторыю барацьбы з таталітарызмам. У канцы канцоў „сімвал" быў здадзены ў міліцыю. Аднак ненадоўга, бо праз нейкую гадзіну зноў паявіўся на кангрэсе, ды толькі болей ужо на стол не залазіў.

Па сутнасці я быў бы схільны прабачыць „сімвалу" яго фізічныя паводзіны. Думаецца мне, што малады чалавек мае права да дурацкага ўчынку, каб толькі не за часта. Не магу аднак ані зразумець, ані прабачыць яму за моўны аспект справы. У выніку празмернага спажытку алкаголю ў паэта С. выразна дайшла да голасу падсвядомасць. Ї вось гэтая падсвядомасць дыктавала яму словы „извините" і тую рускую тыраду, якую я ўжо поўнасцю прывёў. Ї здаецца мне, што дрэнная справа з беларускім адраджэннем, калі яго „носьбіты" і „сімвалы", выпіўшы некалькі бутэлек піва, забываюць беларускую мову і шпараць ва ўсю іванаўскую „на подлинном русском языке".Ї як тут звязаць надзею на адраджэнне нашай нацыі з такімі „сімваламі" і „носьбітамі"?!

**Алесь Барскі**

**********************************************************************




**Прэм'ер-міністр Ян Кшыштоф Бялецкі** загадаў міністру ўнутраных спраў прадставіць прапановы дзеяння ў справе абмежавання кантрабанды на ўсходняй граніцы. Усходнюю мяжу Польшчы перасякае штомесяц 600-700 тысяч чалавек. За апошні месяц польскія мытнікі вярнулі назад 30 тысяч савецкіх грамадзян і канфіскавалі 65 тысяч літраў алкаголю.

**400 паліцыянтаў кантралявалі базар у Беластоку.** У выніку акцыі, мэтай якой было абмежаванне нелегальнага гандалю гарэлкай, аштрафавана 70 чалавек на суму 4 мільёнаў злотых, узбуджана 20 судовых спраў, праверана 159 машын і канфіскавана 573 бутэлькі гарэлкі.

- **У Польшчы наглядаецца павышаная актыўнасць спецыяльных службаў суседніх і іншых дзяржаў**, - сказаў журналістам міністр нацыянальнай абароны **Пётр Каладзейчык**. Не выявіў ён дэталяў гэтай з'явы, але сцвердзіў, што перабудова дзяржаўнага апарату ў Польшчы спрыяе таму, каб зрабіць з нашай краіны „поле для шпіёнскіх дзеянняў, тэрарызму і кантрабанды". Міністр гаварыў таксама аб „адроджванні германскіх сентыментаў на Шлёнску", якія, з увагі на канцэнтрацыю прамысловасці і ваенных часцей на гэтай тэрыторыі, могуць даць глебу для дзеянняў, пагражаючых бяспечнасці краіны.

**У 48-ую гадавіну расстрэлу немцамі некалькіх дзесяткаў бязвінных жыхароў Бельска-Падляшскага** ў лесе каля вёскі Пілікі, ля Маўзалея на парафіяльных могілках была адпраўлена багаслужба. Жалобным урачыстасцям старшыняваў і пропаведзь сказаў генеральны вікары Драгічынскай дыяцэзіі кс. **Эўгеніюш Бароўскі.**

**Кошт прабывання маладых пілігрымаў з Савецкага Саюза**, якія ў жніўні прыедуць у Чанстахову на сустрэчу з папам Янам Паўлам II, бярэ на сябе Касцельны арганізацыйны Камітэт IV Сусветнага Дня Моладзі. Мяркуецца, што гэтая пабыўка каштаваць будзе 750 тысяч долараў.

**Страйк гарадской камунікацыі ў Беластоку** знайшоў свой фінал на судовай зале. Ваяводскі суд мае вырашыць, ці пастанова Гарадской рады аб ліквідацыі камунікацыйнага прадпрыемства і стварэнні трох транспартных суполак была прынята згодна з законам. Рашэнне суда будзе аб'яўлена 22 ліпеня а 14 гадзіне. (Гэты нумар "Нівы" здаецца ў друк 22.07. раніцай).

# ЗАЯВА

*Варшава, 1991.07.01*

Пан Маршалак Сейма РП
Праф. Мікалай Казакевіч
Варшава

Мы, прадстаўнікі беларусаў, немцаў, яўрэяў, лэмкаў і караімаў, згуртаваныя ў Радзе нацыянальных меншасцяў у РП, якія сабраліся ў Варшаве 30 чэрвеня 1991 года, падаем наш голас пратэсту супраць пашыраючайся ў нашай краіне ксенафобіі, расавай і племяннай нянавісці, якія ў апошнія дні ярка выявіліся ў пагроме цыганоў у Млаве.

Жахлівая, на нашу думку, справа - гэта раўнадушша большасці польскага насельніцтва Млавы да разбуханай расавай нянавісці і актаў варварства ў адносінах да зусім, у дадзеным выпадку, нявінных людзей. Здзіўляе і непакоіць нас таксама малая актыўнасць і спозненыя дзеянні паліцыі супраць гэтых актаў.

Спадзяемся, што віноўнікі будуць пастаўлены перад судом і прыкладна пакараны, а адпаведныя ўлады зробяць захады з мэтай прызнаць пацярпеўшым маральную і матэрыяльную кампенсацыю.

Звяртаемся з заклікам да палітычных і грамадскіх арганізацый, а таксама да касцёлаў прыняць доўгатэрміновыя дзеянні з мэтай усведамляць грамадства ў галіне фармаў талерантнасці і пашанавання правоў усіх рэлігійных і нацыянальных груповак, пражываючых у Польшчы, што з'яўляецца неабходнай умовай стварэння плюралізму і дэмакратыі.

Просім Сейм прыняць адпаведныя дзеянні ў гэтай справе.

За Управу Рады нацыянальных меншасцяў у РП

| | |
|---|---|
| **Сакратар** | **Старшыня** |
| **С. Пілецкі** | **М. Алексяюк** |

## АХОВА ПРЫРОДЫ НЕ ВЕДАЕ ГРАНІЦ

Цэлых пяць дзён у чэрвені г.г. працягвалася ў Белавежы першае пасяджэнне рабочай групы па справах ахоўваемых прыродных абшараў Польска-савецкай мяшанай камісіі па супрацоўніцтву ў галіне аховы асяроддзя. Савецкую дэлегацыю ўзначальваў Мікалай Стэцэнка, начальнік Праўлення Дзяржаўных запаведнікаў і іншых ахоўваемых тэрыторый Дзяржкампрыроды УССР у Кіеве. У складзе дэлегацыі былі таксама Таццяна Сабалеўская з Мінска, спецыяліст-інспектар Дзяржкамэкалогіі БССР Уладзімір Таўкач і Павел Міхалевіч з Камянюк, навуковыя супрацоўнікі Белавежскай дзяржаўна-паляўнічай гаспадаркі. На чале польскай групы стаяў праф. Здзіслаў Гарабін з Варшавы.

Шмат гаварылася і аб Белавежскай пушчы. Плануецца стварыць спецыяльную камісію, якая б займалася гэтым лясным комплексам. Яна б таксама займалася пытаннямі ахоўваемых абшараў уздоўж граніцы паміж БССР і Польшчай.

У найбліжэйшым часе будуць разглядацца прапановы адносна праграмы супольных прац у сферы даследавання і загадвання экасістэмай Белавежскай пушчы. На другім пасяджэнні рабочай групы (адбудзецца яно ў IV квартале г.г. у СССР) будзе разглядацца прапанова заснавання польска-беларускага біясфернага запаведніка „Белавежская пушча", які б ахопліваў усю пушчу. Вучоныя вырашылі таксама наладзіць у 1992 г., у СССР, спецыялістычную польска-савецкую канферэнцыю па далейшай стратэгіі аховы зуброў.

**Пётр Байко**




Камплекты кілімаў, кап, трыкатаж - выраб і продаж.

**Кур'яны, Беласток, тэл. 435476, 431909**




* Рэпартаж з „Басовішча".
* Ніякіх аргументаў у іх ужо няма - размова з Зянонам Пазняком.
* Да стагоддзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.
* Выбарчы сход Польскага беларусазнаўчага таварыства.
* Юбілей дзетдома ў Белавежы.
* Супрацоўніцтва настаўнікаў беларускай мовы Гродзеншчыны і Беласточчыны.
* Аб спольшчванні беларускіх назваў.




## СЫС

Мінуў пісьменніцкі зьезд.
У наступ ідуць амазонкі.
А Сыс прапівае „Пан лес"
увесь да апошняй сасонкі.

Пазьняк у саветы ўлез.
У вёсцы няма самагонкі.
Сыс прапівае „Пан лес"
увесь да апошняй сасонкі.

Зачынены бар на рамонт.
Грызіце, пісакі, гліну...
А Сыс не збаўляе понт.
Із ім запівае Чыгрынаў.

На пляцах маўклівы люд.
А Данчык кліча за мора.
А Сыс прапівае тут
усё беспрасьветнае гора.

Сыс заганяе за так,
наліўшы ў кяліх пільгрыма,
увесь папяровы бардак,
не тоячыся, бяз грыма.

На ўсіх нападае шыз.
Расстрэльваюць нас не з абрэзу.
Ты вырубіўся, Пан Сыс,
у Менску - адзін сярод лесу.

Я вып'ю з табою, Сыс,
у хусьце вясковай кралі.
Ня ўмееш глядзець уніз?
А неба ў цябе укралі.

**Данута Бічэль**

# ТАМАРА БОЛДАК



10 верасня 1946 года ў адзінокай хаце ў Нарэйках сям'я Болдакаў павялічылася - прыйшла на гэты свет крывадушнасці чарнавалосая дачушка, а ахрысцілі яе ў царкве Тамарай. Ніхто не ведаў, што ў простай беларускай сям'і нарадзіўся такі талент. Тамара расла здаровая, бавілася з дзецьмі - праваслаўнымі і каталікамі. Успамінае Тамара сваё дзяцінства сярод лугоў, над рэчкай Свіслаччу, у хатцы ля чыгункі. Усе гаварылі па-беларуску. Пачатковую школу Тамара закончыла ў Вераб'ях, над невялічкай рэчкай Калодзенкай. Тамара любіла хадзіць у нядзелю з бацькамі ў царкву, глядзець на цудоўныя іконы.

У Беластоку вучылася ў ліцэі н-р 3, а потым паступіла ў Інстытут польскай і славянскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Пачала працаваць настаўніцай у Мрозах каля Варшавы. У 1976 годзе пераехала ў Ольштын, дзе працуе выкладчыцай. Тут пазнаёмілася з настаўнікам Антонам Яноўскім, а вянчаў іх святар Аляксандр Шаломаў з праваслаўнага прыхода ў Ольштыне...

Ужо больш 15 гадоў Тамара Болдак-Яноўская піша вершы і малюе іконы. Яе выстаўкі ў двух стылях - візантыйскім і армянскім. На выстаўцы ў Коніне вернісаж паэткі і мастачкі быў вялікай падзеяй. Тамара Болдак часта выступае перад публікай сесій, якія арганізуе Сындэсмас; артыстка з'яўляецца членам гэтай хрысціянскай арганізацыі.

Паэзія Тамары Болдак інспіравана беларускім пейзажам і песняй артадаксійнай літургіі. Ёсць у гэтай паэзіі матыў уцёкаў з лабірынту, у цеснага памяшкання на волю з дапамогай мараў, жаночасці. На жаль, Тамара Болдак піша вершы на польскай мове. Найбольш спадабаўся мне вось гэты:

Месяц над Свіслачанамі
Складаецца з двух яблыкаў
Потым адно з'ядае
І выцалоўвае месца па ім
Потым зноў складаецца з двух
яблыкаў
А калі б я праверыла гэта на сабе
- выцалавала б маю беларускасць.

І наступны:
На пагранічным бугры
Карова жарэ бочку ветру з траў -
і да больших траў і ад ветру
паўбокам крыва стаіць
Баба з тварам з кахання
Чорнай карове глядзіць услед
і ў сцежкі на небе...

Тамара малюе іконы - „паэсункі" - рысункі да паэзіі. Ужо мела 19 асобных выставак, між іншым, у Ольштыне, Коніне, Нідзіцы, Шчытне, Беластоку. На вернісажах дэкламуе свае вершы, спалучае слова з вобразам, маўчанне намаляванае з маўчаннем сказаным. Тамара Болдак публікавала ў „Тыгодніку Падляшскім" (9.09.1987) вершы „Верная з Мастаўлян". Муж Антон таксама піша вершы і рэзбіць у драўніне. У 1988 годзе публікавалі яны супольна вершы з цыкла „Малыя пейзажы".

Тамара бачыць, як памірае беларуская вёска. Старыя адыходзяць, забіраюць з сабой вершы і песні...

**Андрэй Гаўрылюк**

*(Пераклад вершаў Міры Лукшы)*



**********

# ДЫЯРЫУШ ФЁДАРА ЕЎЛАШОЎСКАГА

Беларускім літаратуразнаўцам і мовазнаўцам прыйдзецца яшчэ шмат пакапацца ў літаратурных і гістарычных архівах, каб даказаць, што беларуская культура на працягу сваёй гісторыі не была нейкай „экзатычнай" з'явай, але чымсьці натуральным ды роўнай сярод роўных у Еўропе! Вучоныя Беларусі за перыяд яе звыш сямідзесяцігадовага дзяржаўнага існавання зрабілі ў гэтым напрамку велізарную працу. Але не ўсё яшчэ паказана, шмат што хаваюць яшчэ таемныя бібліятэкі і архівы, некаторыя факты патрабуюць новай інтэрпрэтацыі. У гэтым кантэксце заслугоўвае ўвагі праца, відаць, маладога даследчыка-мовазнаўцы Уладзіміра Свяжынскага „Гістарычныя запіскі" Ф. Еўлашоўскага", якая выйшла ў мінскім выдавецтве „Навука і тэхніка" ў мінулым годзе*. У ёй упершыню ў беларускім мовазнаўстве даецца поўнае апісанне мовы гэтага самага ранняга помніка мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры канца XVI - пачатку XVII ст.

Беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік Фёдар Еўлашоўскі нарадзіўся 7 лютага 1546 г. у мястэчку Ляхавічы / зараз раённы цэнтр Брэсцкай вобласці/ у дробнапамеснай шляхецкай праваслаўнай сям'і. Сям'я гэтая мела маёмасць у Еўлашове. Веды ў галіне матэматыкі, справаводства, юрыспрудэнцыі, а таксама польскай і яўрэйскай моў, набыў шляхам, галоўным чынам, самаадукацыі. У 1564 г. удзельнічае ў бітве на Уле ў Руска-лівонскай вайне, дзе рускія войскі пацярпелі паражэнне. Нягоды і цяжкасці ваеннага жыцця прымушаюць яго ў 18-гадовым узросце пакінуць ваенную службу. Набытыя, аднак, ім веды хутка заўважаюць як шляхта, так і знатныя феадалы: маршалак дворны троцкі ваявода Мікалай Крыштоф Радзівіл /Сіротка/, маршалак земскі і гетман ліфляндскі Ян Еранім Хадкевіч, кіеўскі ваявода і валынскі маршалак Канстанцін Астрожскі, а нават каралі Жыгімонт II Аўгуст, Стэфан Баторый ды Жыгімонт III. Даручаюць яны яму збор падаткаў, інвентарызацыю маёнткаў, вядзенне судовых спраў. Еўлашоўскі неаднаразова выбіраецца павятовым дэпутатам сейма Рэчы Паспалітай. Па даручэнню навагрудскай шляхты з'яўляецца ён наслом на Люблінскім /1569/ і Варшаўскім /1579/ сеймах. Якраз на апошнім з іх Фёдар Еўлашоўскі - юрыст разам з навагрудскім суддзёй Андрэем Трызнам прымаюць удзел у выпрацоўцы дзяржаўна-прававога дакумента - статута вышэйшага дзяржаўнага суда Вялікага княства Літоўскага „Трыбунала Вялікага княства Літоўскага", выдадзенага затым у Вільні ў 1586 г. У 1592-1613 г.г. беларускі памяркоўны ліберал працуе падсудкам /адвакатам/ у Навагрудскім земскім судзе. Памірае ён недзе ў першай палавіне 1619 г.

На светапогляд і рэлігійныя перакананні беларускага мемуарыста значны ўплыў аказвае грамадскі рух антыфеадальнага і антыкаталіцкага характару, які ўзнік у першай палове XVI ст. у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе і які даў пачатак новай разнавіднасці хрысціянскага веравызнання - пратэстантызму - Рэфармацыя. На Беларусі пратэстантызм, як форма больш дэмакратычнай нацыянальнай царквы, пашыраўся галоўным чынам у якасці кальвінізму, у меншай ступені - лютэранства і антытрынітарызму. Еўлашоўскі трапляе ў Вільню ў час уздыму рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім у 1566 г. Пад уплывам ідэй пратэстантызму пакідае ён праваслаўе і пераходзіць у кальвінізм.

„Гістарычныя запіскі" Фёдара Еўлашоўскага - першы з вядомых твораў мемуарнага жанру старажытнай беларускай літаратуры - пачалі ўзнікаць, калі аўтару было ўжо 57 гадоў у 1603 г., хоць абапіраюцца яны, як мяркуецца, на ранейшыя дзённікі 1564-1603 гадоў. Не захавалася пачатковых 55 старонак арыгіналу мемуараў - рукапісу, ні, відаць, заканчэнне. Дыярыуш носіць пераважна аўтабіяграфічны, асабісты характар. Адлюстроўвае зацікаўленасць да побыту сярэдняга чалавека, праз суб'ектыўнае светаўспрыманне паказвае грамадскае жыццё. Характарызуе многіх вядомых асоб, у тым ліку аршанскага старосту Філона Кміту-Чарнабыльскага /1530-1587/ - ваенна-палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Еўлашоўскі сэнс свайго жыцця бачыць у верным служэнні сваім апекунам і мецэнатам /30 гадоў служыў ён Крыштофу Радзівілу Сіротцы/. Меў блізкія адносіны з каралём Стэфанам Баторыем, служыў каралям і беларуска-літоўскім магнатам. Беларускі мемуарыст быў сведкам заключэння Люблінскай дзяржаўнай уніі, удзельнічаў у провадах караля Жыгімонта II Аўгуста ў 1572 г. на лячэнне ў Кнышын. Аб усім гэтым можна даведацца з ягоных мемуараў, поўны тэкст якіх прыводзіцца ў кніжцы У. Свяжынскага з захаваннем важнейшых графіка-арфаграфічных асаблівасцей арыгінала.

Уладзімір Свяжынскі даследуе мову „Гістарычных запісак", сістэму пісьма, графіку, арфаграфію, фанетыку, марфалогію /назоўнік, прыметнік, асабовыя і зваротныя займеннікі, колькасныя, дробавыя і зборныя лічэбнікі, дзеяслоў/, лексічны склад /агульнаславянскую лексіку, уласнабеларускую лексіку, лексіку іншамоўнага паходжання/. Мова „Запісак", падобная на мову Літоўскага статута і грамат XVI ст., шмат у чым агульная з моўнымі сродкамі дзелавых тэкстаў XVI-XVII ст.ст., нягледзячы на тое, што багатая яна паланізмамі.

Праца Уладзіміра Свяжынскага пацвярджае арыгінальнасць і самабытнасць беларускай літаратуры таго часу, якая разам з ростам асобаснага пачатку прайшла своеасаблівую эвалюцыю ад традыцыйнага летапісання па творы гісторыка-мемуарнай прозы, хоць і ў іх была выкарыстана характэрная для летапісаў форма пагадовых запісаў, што дазваляла захаваць храналагічную паслядоўнасць падзей. „Гістарычныя запіскі" Фёдара Еўлашоўскага дазваляюць вывучаць палітычнае і культурнае жыццё, побыт і светапогляд прадстаўнікоў розных класаў таго часу, перш за ўсё шляхты, а само даследаванне Уладзіміра Свяжынскага - вызначыць месца гэтага дыярыуша ў сістэме помнікаў старабеларускай пісьменнасці.

**Юры Трачук**

---

* У. М. Свяжынскі, „Гістарычныя запіскі" Ф. Еўлашоўскага, „Навука і тэхніка", Мінск 1990, с.с. 123.

# ЦУД У БЕЛАВЕЖЫ

( Працяг са стар. 1 )

ўдзельнікі экскурсій - цяпер жа турысцкі сезон! Экскурсаводы зараз паказваюць дрэва з вобразам кожнай групе. Весткі пра цуд разыйшліся шырока. Нават з тэлебачання здымаць прыязджалі.

Я пачаў цікавіцца, ці хтосьці раней за Станіслава прыкмеціў гэты вобраз. Аказалася, што так! Навесну 1990 года Ян Казак з Падалян рамантаваў печы ў гасцініцы і рэстаране „Іва". Аднойчы, выходзячы з будынка, глянуў ён у напрамку дубоў і яму паказалася, што на дрэве вісіць ікона. Ён, заінтрыгаваны, падыйшоў бліжэй, але пераканаўся, што там нічога няма.

- Я палічыў гэта, - кажа Ян Казак, - чымсьці малаважным, проста звычайным капрызам натуры і нікому пра вобраз не ўспамінаў.

І вось трэба было С. Банаха, каб незвычайная з'ява стала вядомай шырокаму кругу людзей. А ўсё ж цікава, што цэлы год ніхто гэтага „капрызу натуры" не прыкмячаў. Нат я, праходзячы побач дубоў амаль штодзённа, нічога не заўважыў. Аднак, праўду казаў Станіслаў, што трэба менш убіваць вочы ў зямлю.

Гледзячы на вобраз з алеі, выразна бачыш контур галавы, валасы, вочы, вусны і плечы. Безумоўна, гэта мужчына, хаця некаторыя схільны лічыць жанчынай. Псаломшчык з белавежскай царквы Пётр Дваракоўскі з перакананнем сцвярджае, што постаць напамінае яму архангела Гаўрыіла, так як ён прадстаўляецца на святых абразах. Спадар Дваракоўскі дагледзеўся яшчэ, стоячы бліз дуба, натоўпу людзей (сапраўды, можна адрозніць прынамсі некалькі людскіх галоў), якія, гледзячы на іх зводдалі, пераменяюцца ў літургічную вопратку, накрываючую плечы постаці. Псаломшчык разважае, ці часам архангел не прадвяшчае людзям нейкую навіну? Добрая яна ці дрэнная? Той натоўп людзй адлюстраваны так, быццам кідаўся ў паніцы.

Аглядаў я аднойчы вобраз, у прысутнасці д-ра Сяргея Тарасевіча, вечарам. Падыйшлі мы да дуба на некалькі метраў. І што дзіўнае - калі ўдзень на такой адлегласці вобраз расплываецца, то ў змроку набіраў вастрыні. Нам аж дрыжыкі пайшлі па целе. Убачылі мы чалавека яшчэ маладога, узросту звыш 30 гадоў. Валасы ў яго густыя, цёмныя. На ілбе відаць рубец. На вуснах блукаецца загадкавая ўсмешка. Вакол галавы выразнае ззянне.

Мне цяжка сказаць, ці гэта цуд, ці толькі выпадковы вынік супольнага дзеяння розных атмасферных фактараў. І ці наогул хтось можа тут штосьці вырашыць? Аднак што не гаварыць ці думаць, з'ява гэта вельмі цікавая, інтрыгуючая. Варта яе паглядзець!

**Пётр Байко**

# ФОТА - ВІТРЫНА



*Вяртанне з выпасу. Фота Уладзіслава Завадскага.*

## Кнігарня ў Гарадку

Кнігарня ў Гарадку працуе ад снежня 1962 года. Змяшчаецца ў невялікім драўляным будынку, насупраць Гміннага дома культуры, каля аўтобуснага прыпынка. Тут заўсёды можна было трапіць на цікавыя кніжкі.

Ад пачатку існавання кнігарні працуе тут Ніна Павільч.

- Мы цяпер перайшлі на прыватную кнігарню, - кажа пані Ніна. - Будынак арандуем, самі атрымоўваем тавар. Да 1 ліпеня за будынак плацілі за месяц 300 тысяч, а ацяпленне - 285 тысяч злотых. Цэны зноў падняліся, і цяпер плацім мільён без ацяплення.

- Адкуль бярэце кнігі?

- Пераважна з Дома кніжкі, па 16 прац. ад кнігі, а таксама з гуртоўні, але там малы выбар.

- Бачу, што ёсць у вас і касеты, і паштоўкі, і цацкі, і касметыка, парашкі, цыгарэты... А якія кніжкі найлепш прадаюцца?

- Вядома - з кухоннымі парадамі. І кніжкі Люсі-Мауд Мантгомеры, кніжкі якой удалося нам купіць танней, па 32 тысячы за два тамы „Ані". II і III выданне будуць напэўна даражэйшыя. Многа ў нас слоўнікаў, добрай дзіцячай літаратуры...

- Бачу „Ардыната Міхароўскага" Галены Мнішэк...

- Чытачы шмат купляюць кніжак такога тыпу. Сярэдняя цана кніжкі 12, 10, 15 тысяч. З дзіцячых маем яшчэ старыя выданні і па тысячы злотых. Але вось гэтыя казкі - па 38, па 40 тысяч. Як зарабляем? Пакуль што не плацім падаткаў. Маем крышку больш як звычайныя заробкі, але калі будзем плаціць падаткі, не будзе розніцы.

- Ад вашай ініцыятыўнасці ўсё залежыць?!

- Стараемся ўтрымаць гэтую кнігарню ў Гарадку.

- Канкурэнцыі няма?

- На пошце таксама прадаюць кніжкі, і маюць добры выбар...

Пад час нашай размовы ў маленькім памяшканні гарадоцкай кнігарні было каля 20 асоб рознага ўзросту, якія цікавіліся якраз новымі кніжкамі, а не іншым таварам, таксама ў добрым гатунку. Добра, што Павільчам удаецца ўтрымаць гэтую кнігарню, патрэбную ў невялікім гарадку.

**М. Лукша**

*****************************************

**Піражкі з макам**

## ПРАГНОЗ НА ВОСЕНЬ

У Макотры выступілі прыкметныя сімптомы надыходзячай палітычнай ліхаманкі. Адыёзныя паклоннікі паваленых яснапалійскіх куміраў, абгадзіўшы абарыгенных сабратаў, адкрылі міражныя берагі Заакіяніі і на залатым узгорку выявілі збранзавелыя постаці закінутых сюды лёсавым прыбоем белапірагійцаў. Выструніўшыся на „зважай", нашы адкрывальнікі выгукнулі натхнёнае „Жыве Белапірогія!" і ўпалі на калені. Во дзе сапраўдная белапірагійскасць! - узмаліліся. Да экстазуназахапляўшыся бронзай, вылізаўшы заакіянцам сараматныя шчыліны, жахнуліся ад жудаснай явы: у новых куміраў няма белапірагійскіх родавых органаў - бронза нараджае дзівосных мутантаў. Белапірагійцы Заакіяніі, або, як кажа вядомы гайнаўскі барадач, заакіянцы Белапірогіі, падвергнуты тым самым працэсам, якія назіраюцца і ў Макотры - біялагічны фонд белапірагійскасці крытычна паменшваецца. Чуваць ужо і сігнал трывогі: „Патрэбны нам прыліў маладой белапірагійскай крыві!" Тут прыхільнікам донарскіх захадаў нечакана выступіў зялёнае сонейка Алеська Бандарскі.

- Не бядуйце, браткі-заакіянцы, - мовіў ён плыткадумна. - Я кахаю вас, і вашу бяду пальцам развяду. Хутка, калі нас прыдушыць крызіс, - прарочыў, - пашырацца і вароты на залаты ўзгорак. У гэту пройму і хлыне вядомы макотранскі маладняк, і шчыльна запоўніць праломы ў белапірагійскіх радах Заакіяніі, і моцна возьме ў свае рукі штандар белапірагійскасці, і горда ўзніме яго над залатым узгоркам.

Паддаўшыся ваяцкаму пафасу, наш князь яўна апраставалосіўся. Бо толькі неразважны палкаводзец пасылае ў далёкія краі адборнае войска ў той час, калі стойкія ваякі да зарэзу патрэбны на радзіме. Ды ад Алеські Бандарскага ўсяго спадзявацца можна.

Вось сапраўды здзівіў мяне пасаж крыноцкага электрыка. Яшчэ нядаўна, пасля пройгрышу ў гонцы да сенатарскага крэсла, прылюдна клянуўся ён: „Больш ніколі, ніколі". І, на табе, зноў шуруе пяткамі па вабным насціле. Дзеля адводу вачэй прысвоіў нават дэвіз Вялікага Электрыка: „Не хачу, ды мушу".

- Trahit sua quemque voluptas, - сказаў азадачаным макотранцам лацініст пан Мацюк і пераклаў: - Кожнага цягне ягоная страсць.

І ад гэтай цягі, відаць, няма ратунку. Прадбачваецца памыеносная восень. Ужо атрады памыеносцаў рыхтуюць салідныя памыйніцы.

**Сідар Макацёр**




## Сярод загадак

Пару дзён таму назад сустрэў я чалавека, які вельмі цікавіцца, як ён сказаў, тым, што „піша „Ніва".

Выказаў ён свае крытычныя думкі аб розных аўтарах, аб "вадзе", якая цячэ са старонак нашага часопіса.

І раптам сказаў ён мне, што ведае шмат галаваломак-загадак, якія цяжкія сваёй прастатой. Трэба толькі лагічна думаць, сказаў.

- Вось табе тры загадкі, бо больш і так не адгадаеш, - скептычна паглядзеў мне ў вочы „мой" Коля. Першая: У бацькі было сем сыноў і кожны з іх меў сястронку. Колькі ў бацькі было дочак? Другая: Два гаспадары на лузе пасвілі свае авечкі. Адзін з іх запрапанаваў, як кожны цванік: „Коля, дай мне адну авечку і я буду мець удвая больш авечак чым ты". А Коля яму ў адказ: „О, хітры! Калі б ты быў добрым суседам, дык даў бы мне адну сваю замест прасіць у мяне і мы мелі б пароўну. Па колькі авечак мелі гаспадары? Трэцяя: Я з жонкай жыву ў кааператыўнай кватэры. У нас больш нікога няма. Кожнае з нас мае па два ручнікі - адзін да твару, а другі да „ног". Колькі ручнікоў павінна вісець у ваннай?

Расчараваўся мой сябра мною, бо ўсе тыя загадкі я ведаю: Першую з іх вытлумачыла мне Юлітка Палоцкая, вучаніца пачатковай школы ў Беластоку, другую я ведаў ужо даўно, а трэцюю я адгадаў адразу, бо за ім папаў у дасціпнасць сітуацыі.

А што на гэта паважаныя чытачы „Нівы"? Калі будзе трэба, каб я адказаў, адкажу.

Прыемнай гульні!

**Васіль Петручук**



## ПОЛЬСКА - БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ГІСТАРЫЧНЫХ НАВУК

У Белавежы 29-30 чэрвеня адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускіх і польскіх навуковых асяроддзяў, на якой было заснавана Польска-беларускае таварыства гістарычных навук. Ініцыятарам гэтай сустрэчы быў сенатар Рэчыпаспалітай прафесар Уладзімір Баярскі. Гэта ўжо яго не першая прапанова наладзіць навуковыя кантакты між Польшчай і Беларуссю. Непасрэдным арганізатарам канферэнцыі быў прафесар Станіслаў Запаснік, якому ўдалося знайсці спонсара спаткання - фонд Стэфана Баторыя.

Белавежская сустрэча прыцягнула аўтэнтычных прадстаўнікоў гістарычных асяроддзяў абодвух народаў. Кіраўнікамі бакоў - удзельнікаў канферэнцыі былі: доктар гістарычных навук і лідэр БНФ Зянон Пазняк і ўспомнены ўжо праф. У. Баярскі. Два дні бурлівай дыскусіі дазволілі выпрацаваць характар Таварыства. Паколькі большасць удзельнікаў спаткання было гісторыкамі, створана напачатак Польска-беларускае таварыства гістарычных навук (Białorusko-Polskie Towarzystwo Nauk Historycznych). Мэтай гэтага Таварыства будзе вывучэнне сумесных праблем гістарычнага мінулага Польшчы і Беларусі. Паводле апрацаванага ў час сустрэчы статута, членамі Таварыства могуць быць вучоныя, якія даследуюць пытанні сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі Польшчы і Беларусі, а таксама культурных стасункаў між нашымі народамі. Таварыства будзе ствараць доступ даследчыкам да архіўных матэрыялаў на Беларусі і Польшчы, арганізоўваць штогадовыя навуковыя канферэнцыі па чарзе ў абедзвюх краінах, а таксама выдаваць свой двухмоўны навуковы орган - штоквартальнік „Сумежжа". Часопіс будзе выяўляць гістарычную праўду і публікаваць гістарычныя крыніцы. Першы нумар „Сумежжа" мае быць прысвечаны Крэўскай уніі - 1385 года. Створана рэдкалегія, у склад якой увайшлі з польскага боку праф. М. Каламайская, д-р Ю.Туронак і М. Карп, а з беларускага: праф. А. Грыцкевіч, д-р Д. Санко і д-р В. Голубеў.

Удзельнікі белавежскай канферэнцыі стварылі чатырохасабовыя рады з кожнага боку, якія давядуць да рэгістрацыі статут Таварыства ў сваіх краінах і падрыхтуюць першы агульны сход яго членаў. Старшынёй камісіі з беларускага боку выбраны праф. А. Грыцкевіч, а з польскага - праф. Г. Дылёнгава. Апрача іх у сціслае кіраўніцтва ўвайшлі: праф. А.Трусаў, праф. М. Біч, д-р В. Голубеў, праф. М. Каламайская, праф. С. Запаснік, д-р Ю. Туронак і д-р А. Мірановіч.

На заканчэнне канферэнцыі выступілі праф. Э. Смулкова, праф. А. Трусаў, праф. У. Баярскі і д-р З. Пазняк. Усе выступаючыя падкрэслілі значэнне белавежскага спаткання ў ўзаемных адносінах і выказалі свае спадзяванні, звязаныя з дзейнасцю Таварыства. Думаю, што персанальны склад Таварыства дае гарантыю на пашырэнне польска-беларускіх навуковых кантактаў. Між іншым, такую думку выказаў прысутны на канферэнцыі сакратар Польскай акадэміі навук праф. А.Вычанскі.

**А. Мірановіч**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

- 44 -

Як папаўненне вышэй прыведзенага дагавору трэба трактаваць афіцыйны ліст доктара Пурыцкіса - літоўскага міністра замежных спраў - Ластоўскаму, у якім ад імя свайго ўрада літоўскі міністр выяўляў згоду (у выпадку карыснага для літоўцаў выніку плебісцыту ў справе спрэчнай тэрыторыі) на стварэнне палітычнай адзінкі з тэрыторыі, якая знаходзілася на поўдзень ад мяжы, прынятай руска-літоўскім трактатам ад 12 лютага 1920 года. Край гэты атрымаў бы аўтаномію на дэмакратычных асновах і быў бы звязаны з Літвой выключна федэрацыйнымі вузламі.

Адначасна з падпісаным дагаворам паміж беларускім і літоўскім урадамі, надпісаны быў „дагавор аб пазыцы аднаго мільёна аўксінаў, якую літоўскі ўрад даў Беларускай Народнай Рэспубліцы". Дагавор надпісалі ў Коўне 13 верасня 1920 г. В. Ластоўскі - старшыня Рады народных міністраў і А. Цвікевіч - міністр справядлівасці з беларускага боку ды д-р Пурыцкіс - міністр замежных спраў з літоўскага боку. У хуткім часе пасля надпісання ўпаўнамочанымі Літвы і Беларусі вышэй прыведзеных дагавораў, была паслана ў Берлін беларуская дэлегацыя, якая ставіла мэту прыхіліць да беларускага палітычнага руху нямецкія сілы і атрымаць ад нямецкага ўрада пазыкі.

Нямецкі ўрад, аднак, не хацеў фінансава ўспамагчы беларускі ўрад, які не быў прызнаны ніводнай з дзяржаў. Беручы ўсё ж пад увагу дагавор паміж Літвой і Беларуссю, абяцаў гарантаваную літоўскім урадам пазыку. Пазыка мела раўняцца 40.000.000 нямецкіх марак і мела быць прызначана на фармаванне партызанскіх падраздзяленняў для барацьбы з палякамі на выпадак ваеннага канфлікту Польшчы з Літвой.

У выніку беларуска-літоўскага дагавору з Ковенскай Літвы пачалі наплываць грошы, недахоп якіх адчувалі дагэтуль беларускія дзеячы з Цэнтральнай Літвы.

У студзені 1921 года быў праведзены ў Вільні з'езд прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый. На гэтым з'ездзе прысутнічалі прадстаўнікі Найвышэйшай рады: Смоліч, Тарэшчанка і іншыя прадстаўнікі Дзяржаўнага камітэта: Аляксюк, Уласаў, прадстаўнік Беларускай вайсковай камісіі Якубеня і прадстаўнікі Цэнтральнай Літвы, урада Ластоўскага з Ковенскай Літвы і заканспіраваныя дзеячы з тэрыторыяў, занятых бальшавікамі.

Сабраных дзялілі найчасцей супрацьстаўныя погляды. Частка выказвалася за тое, каб прыступіць да выбараў у Цэнтральнай Літве і падтрымаць там польскія намеры. Другія ўдзельнікі выказваліся за зусім супрацьстаўную канцэпцыю. Некаторыя прапанавалі нейтральнасць, таму што як Польшча, так і Саветы стараюцца выкарыстаць для сябе беларускую справу, не беручы пры гэтым пад увагу нацыянальныя беларускія аспірацыі. У сувязі з гэтым лічылі, што трэба ўсю справу даручыць натуральнаму ходу падзей і працаваць на глебе асветы і ўсведамлення беларускага народа.

Прадстаўнікі Ковенскай Літвы падтрымлівалі такі падыход да справы і стаялі на грунце шчыльнай літоўска-беларускай федэрацыі.

Мэтай з'езда было, між іншым, супольнае паразуменне адносна вынясення беларускага пытання на міжнародную арэну.

З'езд пастанавіў звярнуцца да польскага ўрада са спецыяльнай дэкларацыяй у справе розных уступак у карысць беларускіх жыхароў, пражываючых у Польшчы. У дэкларацыі прапанавалася:

1) браць пад увагу права на ўжыванне беларускай мовы ва ўрадах і адміністрацыі,

2) утварыць школы з беларускай мовай выкладання,

3) браць пад увагу найбольш істотныя інтарэсы беларускага насельніцтва, якое цярпіць з прычыны шавіністычнай трактоўкі з боку польскіх чыноўнікаў.

Дэкларацыя гэта мела быць у пачатках лютага 1921 года прадстаўлена польскаму міністру замежных спраў дэлегатам Уласавым. *(Працяг будзе)*

****************************************

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**(Працяг са стар.1)**

зоны ўжо хворыя ад успрынятай радыяцыі. На заклік царквы дапамагчы прыняць групу дзяцей з Чарнобыльскай зоны адгукнуліся добрыя людзі. 80 дзяцей прынялі беластачане ў свае сем'і. Мне давялося размаўляць з некаторымі. На пытанне: „Што натхніла вас, каб аддаць частку свайго вольнага часу, не гаворачы ўжо аб апецы і ўтрыманні, незнаёмаму дзіцяці?" - адказ быў заўсёды той самы: „А як жа ж не дапамагчы, калі дзіця ў бядзе!" Сэрца падказвае людзям ратаваць іншых. Адна жанчына, якая ўзяла на адпачынак маленькую, сямігадовую Светачку, прызналася, што сама перажыла трагедыю - смерць дваіх уласных дзяцей. Ці ж яе сэрца можа не адгукнуцца на дзіцячую бяду? У іншыя сем'і дзяцей прымаюць для таго, каб сваіх уласных дзяцей вучыць дабраце і сардэчнасці. „Мае дзеці, - расказвае беластачанка Марыя Дзмітрук, - гаворадь, што я больш дбаю пра Людачку, чым пра іх. І праўда, апекаваліся мы разам з маімі дзецьмі дзяўчынкай з Беларусі вельмі старанна: яна ж у чужым доме, у чужым горадзе, ды і хацелася б, каб ёй тут усё падабалася." Падобныя думкі выказвалі і іншыя. Для першай групы дзяцей, якія прыехалі пад апеку айцоў Храма Усіх Святых на Выгодзе ў Беластоку, супольны пачастунак зрабілі дзве гандлёвыя фірмы - беластоцкая суполка „Сонполь" і нямецкая фірма „Дэгаг". Гэтыя фірмы цесна супрацоўнічаюць паміж сабою і супольна прывезлі дзецям падарункі. У час сустрэчы з дзецьмі на сталах паявіўся пачастунак - розныя напіткі, торты і цукеркі польскай і заходняй прадукцыі, якімі гандлююць абедзве фірмы. Кіраўнік фірмы „Сонполь" прывітаў дзяцей на роднай мове і ад імя сваёй фірмы і прысутнага на сустрэчы прадстаўніка фірмы „Дэгаг" Мікалая Тамулевіча запрасіў дзяцей частавацца. Свабодную размову з дзецьмі вялі і айцы Ян Федарчук, Анатоль Гайдучэня і Анатоль Конах. На заканчэнне сустрэчы ўсе дзеці атрымалі ад фірм торбы з ласункамі, а таксама зрабілі супольную фатаграфію на памяць аб пабыўцы ў Беластоку. Фатакарткі атрымала кожнае дзіця, а заплаціла за гэта таксама фірма „Сонполь." Варта дадаць, што „Сонполь" уключаецца з дапамогай ва ўсе прыезды дзяцей з Чарнобыльскай зоны, якія арганізавалі ў Беластоку Праваслаўная царква і Беларускае таварыства. Для апекуноў, якія прымаюць у свой дом дзяцей з-пад Чарнобыля, фірма наладжвае продаж тавараў па гуртовых, ніжэйшых, цэнах, а часта і дае сезонную садавіну (гарбузы, вінаград і інш.) дзецям у падарунку. Дапамога грамадства дзецям з гэтай страшнай зоны вельмі патрэбна. Чым больш нашых людзей адгукнецца на заклік аб дапамозе, тым больш хворых дзяцей зможа вырвацца з уласнага, забруджанага не па іх віне дому, і пабыць хоць трошкі ў чыстым асяроддзі, паесці чыстага хлеба, чыстай гародніны, папіць чыстага малака. Гэта проста неабходна для іх і так ужо кволага здароўя. Хто яшчэ адгукнецца з прапановай дапамагчы?

**Яніна Чэрнякевіч**




*Дзяўчаткі з Хойнікаў.*
Фота **М. Далецкага**

# У ЯЛОЎЦЫ

Прыход у Ялоўцы старэе. Вёска апусцелая. Старыя людзі, кажа айцец Яўген Канаховіч, адыходзяць на кладзбішча, а моладзь у гарады. Тыя, што тут яшчэ трымаюцца, то адны рэнцісты і пару гаспадароў. Гэты край адміністрацыйна даведзены да ўпадку. Ніхто нават ня думае, каб зрабіць лепшую дарогу. Тая, што вядзе на Вейкі - яе зрабілі яшчэ за царызму, яна так і засталася дагэтуль. За санацыі жыды мелі ў Ялоўцы аўтобус, што ездзіў у Беласток - яны і стараліся, каб дарогі былі ў парадку. Пасля іх ужо ніхто не стараўся. Аднаго разу, вось, у адным такім непраезным месцы, гаспадар праваліўся з возам у яму. Калі мне аб гэтым расказалі, стаў я намаўляць людзей з Веяк і Падазяранаў. Зрабілі чын. Завезлі ў тое месца да трохсот вазоў пяску і жвіру. Ніхто намі не пацікавіўся, каб успамагчы якоюсьці тэхнікай. Ёсць адна цвёрдая дарога, што ад нас на Міхалова йдзе, якою ехаць можна. Яе, праўда, па вайне ўжо зрабілі...


*Айцец Яўген Канаховіч*

Да вайны ў Ялоўцы жыло каля чатырох тысяч людзей. Дзве царквы было - цяпер у адной з іх касцёл. Гэту царкву забралі нам у дваццаць другім року з усім дабром, якое ў ёй было. Ніводная ікона не вярнулася. Народ, які выехаў быў з Ялоўкі ў час першае вайны, калі вярнуўся, застаў на сваіх пляцах вырасшыя бярозы. Пагарэлі іхнія будынкі. Бедна было, у кожнага адна турбота - як прыдбаць сабе сякую-такую хатку. Дрэва ж, за санацыі, было дарагое. Быў адзін, што працаваў у лясніцтве. Яму лягчэй было дастаць матэрыял на будову, але і ён доўгі час ня мог адхрысціцца за адну неацэхаваную штуку, якую ў яго знайшлі. Каня мусіў прадаць, каб за яе расплаціцца. Цяжка было жыць. Людзі ў хатах падлог ня мелі - на гліняным току было трэба. Хадзілі ў лапцях, на чобаты ці іншы абутак немажліва было зарабіць...

У Ялоўцы ўсе - і праваслаўныя, і каталікі - гаворарць па-беларуску. Усе яны, кажа айцец Яўген Канаховіч, беларусы. Закон Божы ў царкве я таксама навучаю па-беларуску...

Ялоўку адміністрацыйна знішчалі. Калісьці была яна мястэчкам - гарадское права атрымала ў 1445 годзе. Упадак пачаўся пасля другое вайны. Абараніліся ад яго толькі тыя мясціны, якія былі каля чыгункі. Яны развіваліся. Ялоўку троху падтрымалі жыды, якія дадумаліся былі пабудаваць дачы, каб прыцягнуць сюды гарадскіх гасцей на адпачынак. Мясцовыя людзі на гэтым зарабілі, хто на малацэ, а хто на грыбах ці ягадах. Неяк трымаўся народ, нідзе не выязджаў, бо заробак меў на месцы. Але і быў такі час за пасляваенная ўлады, што намаўлялі ехаць за ўсходнюю граніцу - шмат хто зрабіў гэта... Была ў Ялоўцы гміна, але перанеслі ў Шымкі. Калі школу пачалі будаваць, то таксама ня ў нас, а там. Сталіцу пачалі рабіць у Шымках - абы далей ад царквы ці касцёла, каб людзі не прывыкалі. Калі хтосьці на свята прыедзе, то ў царкву ці касцёл заходзіць, у гміне справу залатвіць - усё яно адно з адным стасавалася. А цяпер, каб толькі ўсё далей ад сябе раскінуць. Ёсць у нас школа, першыя тры класы, але няведама, ці пратрымаецца да наступнага року...


*Крыжаўздзвіжанская царква ў Ялоўцы.*

Жыць тут засталіся адно старыя і тых пару гаспадароў. Маладыя ў горад хочуць, а там жа беспрацоўе. Ніхто ня дбае пра мясціны, як наша. Калі ў каго і ёсць агародніна ці садавіна, няма каму яе прадаць. Што б ні радзілася на агародзе - хіба толькі карове альбо свінням гэта аддаць. Я сам раблю на гаспадарцы. Яе тут аж замнога. Пятнаццаць гектараў. Раблю толькі пяць, але і гэтых з аднаго хватае... Наўмысна знішчылі цэнтар у Ялоўцы. Там, дзе царква ці касцёл, там народ збіраецца. Былі калісьці ў нас таргі, а торг, самі знаеце, ёсць абмен крыві. Торг патрэбны ў такой мясціне, як наша...

Гэты касцёл, пра які пытаеце, было з ім троху йначай. Не згарэў ён, бо быў мураваны. Стаяў на гары і была на ім высокая вежа. У часе вайны сядзеў там наглядальнік. Але, мусіць, хтось яго заўважыў, бо бабахнулі ў тую вежу і разбілі дашчэнту. Ад часу, як забралі нам адну царкву, было тут двух ксяндзоў і, калі стала тут граніца, то навошта каму было дзве парафіі. Пра адну дбалі, пра другую не. Ксёндз сам зачапіў ліну, пацягнуў трактарам, разваліў сцяну й касцёл. Пабудавалі там потым хлеў, абору... Во так, самі здэваставалі, а пазней скажуць, што ў часе ваенных дзеянняў. Тое, што засталося ад таго касцёла, само цяпер нішчэе...

Шмат разоў мянялася тут улада. Былі саветы ды паўстаўлялі свае правы. Бацюшку выгналі з плябаніі, налажылі на яго падатак у пятнаццаць тысяч рублёў. Буталь гарэлкі каштаваў тады дзевяць рублёў. Заплаціць такі падатак было немажліва, але людзі дапамаглі, людзі заплацілі. Немцы завялі свой парадак. За зямлю трэба было плаціць збожжам, мясам, яйкамі... Запісалі кожнае парася, курачку... Назначылі нормы. Людзі ўсё гэта цярпліва пераносілі ды чакалі новае змены, але лепей жыць ня стала.

**Аляксандр Максімюк**

Фота аўтара

*********************************

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

**Артыкул другі**

Я сяджу ў Ільляшэвіча, у ягоным габінэце на другім паверсе. Унізе нехта грае на піяніне, і гэта перашкаджае Ільляшэвічу. Ён некаму звоніць і музыка змаўкае. Ільляшэвіч яшчэ ні з кім мяне не знаёміў - ён сьпяшаецца мяне „абсмактаць", выпытаць усё, што я ведаю і чаго ня ведаю: пра „наццэмаў", пра арыштаваных беларускіх дзеячоў у Беларусі, пра паэтаў і пісьменьнікаў, якіх я ведаю асабіста і з якімі сустракаўся на выгнаньні, у тым ліку на Калыме. Просіць расказаць пра сябе - як мяне арыштоўвалі, дапытвалі ў НКВД, у чым абвінавачвалі, выціскаў з мяне ўсё, да найменшай драбніцы, сьпяшаючыся занатаваць тое, што я гавару. (У ягоны артыкул у „Новай дарозе" трапіць і тое, чаго я не гаварыў). Ды, зрэшты, гэта не ягоная віна - я сам ахвотна яму паддаваўся. Я разумеў ужо й тады „страсьці" журналіста.

Пасьля „допыту" Хведар Ільляшэвіч павёў мяне да „інжынера Тамашчыка" і мы - трох - спусьціліся наніз, у салю. Там нейкая настаўніца вучыла танцаваць малых дзяўчынак. Зайшлі ў бухгальтэрыю - там мне выпісалі аванс з маёй будучай зарплаты карэктара (Ільляшэвіч ужо мне сказаў, што я буду працаваць карэктарам). Зайшлі ў школьны адзьдзел - мяне пазнаёмілі з акруговым інспектарам і мэтадыстам. Зайшлі у адзьдзел прапаганды - у мяне запыталіся, ці я красамоўны. Нарэшце, у гаспадарчым адзьдзеле мне прызначылі два ложкі, стол, крэсла, матрацы - абсталяваньне для маёй хаціны. Усюды мяне прадстаўлялі як паэта, вязьня і мне было ніякавата, асабліва я сароміўся свайго „гарнітура" - усюды, дзе мы былі, сядзелі маладыя жанчыны, дзяўчаты і той „абход" для мяне быў найбольшай пакутай.

Але ня меншая пакута чакала мяне ўвечары таго дня. Мае адбыцца ў Камітэце нейкае прыняцьце. На яго запрошаныя госьці з розных адзьдзелаў Беларускага Аб'еднаньня, у тым ліку - як я пачуў - з Гайнаўкі. Гэтая назва прагучэла для мяне проста нейкай прыгожай музыкай. Ільляшэвіч просіць мяне зайсьці да яго на кватэру. Аказваецца, кватэра ягоная знаходзілася ў доме, насупраць якога высіліся тыя ліпы, на якія я йшоў учора ў надзеі адшукаць старшыню Беларускага Аб'еднаньня. Ільляшэвіч пазнаёміў мяне з сваёй жонкай Надзейкай, як ён яе назваў, і дачушкай-падлеткам Марыськай. Прыняты быў я сардэчна. Мілая, па-мяшчанску інтэлігентная сям'я. Ільляшэвіч пашаптаўся з жонкай, і тая неўзабаве выносіць мне „Хведараў" касьцюм. Кажа, адпрасую, будзе, выбачайце, добры для вас на вечар. Але я ня быў гатовы прыняць яго і гэта пакрыўдзіла гаспадыню.

На прыняцьце я прыйшоў з хаты ў тым, у чым быў. Адчуваў сябе няпэўным сярод вялікай колькасьці гасьцей, што расьселіся ў салі за даўгімі сталамі. Я апынуўся ў іншым, незнаёмым мне сьвеце: паважныя, з вусікамі, у бізнесовых гарнітурах мужчыны, па-заходняму прыгожа адзетыя, усьмешлівыя жанчыны, ярка асьветленыя сталы з пітвом і ежай. Здавалася, я знаходжуся ў краіне, выключанай з вайны.

Узьняўся Хведар Ільляшэвіч. Прывітаў гасьцей, у тым ліку нейкага чыноўніка, немца. Адразу перайшоў на жарт. Сказаў, што акруговая нарада прадстаўнікоў з адзьдзелаў Беларускага Аб'еднаньня, прысьвечаная школьнаму пытаньню ў

# У БАЯХ ЗА БЕЛАСТОК

*Сорак сем гадоў таму назад, 27 ліпеня 1944 года, Беласток быў вызвалены савецкімі вайскамі з-пад нямецкай акупацыі. У гэтай аперацыі прымаў удзел адзін з нашых чытачоў, ветэран Ігнат Сарокін з Гродна, які так успамінае тыя дні:*

- Стаяла грознае ваеннае лета 1944 года. Нашы войскі пасля баёў за Беларусь і яе сталіцу Мінск сталі працягваць наступленне на Беластоцім напрамку, каб нанесці вырашальны ўдар па нямецкіх акупантах у Польшчы.

22 ліпеня нас, афіцэраў, выклікаў да сябе камандзір 1174-га стралковага палка Далматаў. На карце чырвоным і сінім колерамі пазначана была сітуацыя на фронце, размеркаваны дывізіі і палкі. Чырвоныя стрэлкі цягнуліся ў напрамку Беластока, Астралэнкі, Макава, паварочвалі на поўнач - у кірунку горада Кенігсберг у Прусіі.

Батальён 1174-га стралковага палка, маючы сувязь з часцямі 293-й стралковай дывізіі, падышлі да ракі Свіслач у раёне Крынак.

Палкі 3478-й стралковай дывізіі генерала Нікіціна разам з іншымі дывізіямі 35-га стралковага корпуса прарвалі абарону на рацэ Свіслач.

Добра памятаю, як мы, у цяжкіх безупынных баях, вызвалілі вёску Дамбруўка, а потым падышлі да Васількова і, авалодаўшы ім, фарсіравалі раку Чарна. 27 ліпеня на паўночны захад ад Беластока занялі мы вёску Завады і выйшлі да ракі Бяла. Прыгожыя тыя месцы, напамінаюць беларускі пейзаж і заадно падобныя на нашыя паўднёвыя мясціны. Гэтыя асацыяцыі ўзніклі пазней, пасля некалькіх пабывак у Польшчы. А тады? Тады былі бы, баі і новыя польскія гарады і вёскі.

Не ўдалося немцам утрымаць у сваіх руках Беластока. 27 ліпеня войскі Трэцяй Арміі генерала Гарбатава вызвалілі гэты горад. У гэты дзень ва ўсіх часцях з рук у рукі перадаваліся лістоўкі з прывітаннем Ваеннага Савета Трэцяй Арміі ў сувязі з вызваленнем Беластока.

У ходзе цяжкіх баёў за Беласток палі смерцю героя камандзір 35-га стралковага корпуса генерал Жолудзеў, намеснік камандзіра 348-й стралковай дывізіі палкоўнік Рахметулін, камандзір 3-га стралковага батальёна маёр Глазуноў, байцы Сляпых, Тарасенка, Савельеў і іншыя. Вылучыліся ў баях: Падабед - камсорг палка, Крымер - камандзір стралковай роты, Кобкаў - намеснік камандзіра батальёна, Кавальчук - агітатар палка, салдаты: Крукаў, Цыганкоў, Рагачоў, Фамін, Казлоў, Качабееў і іншыя. Усе яны былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Калі ў горадзе спынілася страляніна, жыхары Беластока выйшлі сустракаць вызваліцеляў. Людзі падбягалі да салдат, пахлопвалі іх па плячу, моцна паціскалі рукі, плакалі і смяяліся, запрашалі ў госці.

Назаўтра салдаты 1174-га стралковага палка пакінулі Беласток і падаліся на захад, вызваляць Замбрув, Астралэнку, Макув, Ольштын і іншыя гарады і вёскі братняй Польшчы.



*Ігнат Сарокін (здымак з ваенных часоў).*

# МЕСЦА ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**(Працяг са стар. 1)**

польскай самалюбнасці, таму прачытанне яго адбылося ў мёртвай цішыні. Зрэшты, увесь гэты калоквіум быў насычаны прыкрымі палякам момантамі ў дэталёвых дыскусіях, асабліва ў панэлях. Адвагі да шчырасці з боку беларусаў, украінцаў, літоўцаў дадаў менавіта Мілаш, які, між іншым, звярнуў увагу на тое, што ў польскай палітычнай ментальнасці наглядаецца тэндэнцыя замяніць „расійскага старэйшага брата" і, так сказаць, абняць бацькоўскім плячом выходзячых у незалежнасць Літву, Беларусь ды Украіну. Шэф беларускай групы з Мінска, акадэмік Адам Мальдзіс, у вытрыманым у памяркоўным тоне выступленні даў зразумець, што Беларусь устае ўжо з каленяў і не мае аніякага намеру зноў кленчыць перад кімсьці, з тым жа блаславёным тварам шчаслівага раба. Сказаў тонкую іронію наконт папулярнага ў Польшчы паняцця Усходніх Крэсаў або Усходняй Сцяны (чамусьці ніхто не чуе пра Заходнія Крэсы, пра Паўднёвыя...).

Трэба прызнаць, што ў палеміках з літоўцамі, беларусамі, украінцамі польскія партнёры паказалі не абы-які клас. Па-джэнтльменску не аспрэчвалі фактаў. Знайшоўся ўсяго адзін сярод іх са слабымі нервамі, які, выскачыўшы на трыбуну, узняў хаатычны лямант, што тут гуляюць у футбол, забіваючы голы ў адны вароты, г.зн. варшаўскія (перапрасілі публіку за гэтага істэрыка). Зрабіла ўражанне прамова Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Давялося потым і яму здзіўляцца, што ёсць такія кандыдаты ў вучоныя, якія схільныя бачыць Польшчу „ад мора да мора" (аказаўся ім нейкі аспірант Люблінскага каталіцкага універсітэта, якому слушна не дазволілі ўсе мы скончыць ягоныя цямнотныя глупствы!). Але былі гэта інцыдэнты, якія не сапсавалі інтэлектуальнай пагоды.

Занадта часта дамінавала ў аўдыторыі - аднак - украінская тэматыка. І невыпадкова, бо будучыню ўсходняй палітыцы Польшчы на забугскім усходзе вырашыць клімат паміж Варшавою і Кіевам. Мае гэта і гістарычную грунтоўку: украінскія войны даводзілі да ўскраю пагібелі Рэчыпаспалітую. Анексія Украіны Расіяй прыдала Маскве імперскай мацаты. Расіяне не могуць махнуць рукою на Прычарнамор'е; аднаго Наварасійска ім мала. А за Беларусь аніколі Петраград не трымаўся аберуч (Ленін аддаваў яе Пілсудскаму ці не ўсю?...).

Даволі рэдка падавалі свой голас літоўцы. Як здалося мне, яны спецыяльна і не намагаліся даступіцца да мікрафонаў. Ім няма чаго трапястацца: нацыя з іх моцная, салідарная, з адчуваннем бацькаўшчыны, а поўная незалежнасць Літвы збудзецца ў бліжэйшыя год-два. Павернутыя нацыянальным абліччам на Балтыку і Скандынавію, дыверсійную мітусню ў сваім славянска-віленскім тыле ўспрымаюць спакойна: не тыя ўжо часы, каб танкамі і самалётамі выбіваць у каго-колечы згоду на ўступкі ў граніцах. Вільні яны не аддадуць, няхай забудуцца пра яе палякі з беларусамі. Яна ім не правінцыяльны горад, а сталіца! І таму немагчыма ўявіць сабе такую сітуацыю, каб міжнародная палітыка прызнала тую ж Вільню, напрыклад, Беларусі... Дзіцячая фантазія або правакацыя, разлічаная на дурняў.

Так што беларускія ўдзельнікі калоквіума наклікалі на палякаў найменей пертурбацыяў. Гэта запрыкмеціў таксама Ігар Бабкоў з Мінска, які ў сваім прыгожым ды інтэлектуальна свежым спічы спрабаваў растлумачыць непадобны на іншых характар беларуса ягонай загледжанасцю ў чалавечы сусвет, а не ў гісторыю (беларусы накшталт „дзяцей космасу" - тэрмін ці не швейцарца Дзітфурта?).

Вяртаўся я з Любліна ў Беласток з салодкім прадчуваннем, што рыхтуецца для Беларусі месца ў цывілізаваным свеце.

**Сакрат Яновіч**

Беласточчыне, закончылася пасыяхова, хоць і трывала доўга, а пастановы прымаліся з немалымі цяжкасцямі. Не зашкодзіць дзеля гэтага прагаласіць тост, прагнаць смагу. За сталамі дружна падтрымалі Ільляшэвічаў тост. „Слова цяпер хача забраць інжынер Тамашчык", сказаў Ільляшэвіч. (Падражніла маё вуха нячутае дасюль „трывала доўга", „прагаласіць", „забраць голас". Як гэта, думаў я, „забраць голас").

Інжынер Тамашчык аказаўся надта красамоўным чалавекам - мова лілася ў яго няспынна, здавалася - быццам ён гаворыць нядумаючы. У сваёй прамове ён закрануў вялікі круг пытаньняў: ад мейсца Беларусі ў новай Эўропе, да такіх пытаньняў, як сяброўства ў Аб'еднаньні, што дасягнула, паводле ягонай статыстыкі, паўсотні тысячаў, як пытаньне друку, самаахоўы, нават пытаньне хору пры Аб'еднаньні. Ён гаварыў таксама аб патрэбе большага ўдзелу беларусаў у палітычным жыцьці Беласточчыны. Ягоная прамова была перасыпаная нязвычнымі, а то й незразумелымі для мяне словамі і зваротамі, накшталт: „высілкі", „дэцыдаваць", „эвэнтуальна", „згары можна ўжо сказаць", „залежыць на...", „што раз болей" і шмат іншых. Псіхалагічна ён здаўся мне чужым чалавекам, не-беларусам, як, зрэшты, і некаторыя іншыя прамоўцы. Зрусіфікаванаму, яны мне выдаваліся ні то палякамі, ні то беларусамі, нейкай іншай нацыяй. Я адчуў усю розьніцу паміж усходняй і заходняй Беларусяй. Цяпер я ўжо сам такі: гавару і пішу на прыблізна такой-жа мове, на якой гаварылі мае суродзічы-беластаччане, але тады... тады, чытаючы „Новую дарогу", асабліва перадавіцы ў ёй, якія пісаў, як я потым даведаўся, інжынер Тамашчык, шмат чаго было мне ў ёй, у гэтай газэце, цьмяным, а то й незразумелым, перш за ўсё дзеля неўласцівых беларускай мове сынтаксычных зваротаў, пакуль я не абцёрся, не пазнаёміўся трохі з польскай мовай. Было-б, магчыма, тое самае і з „Нівай", каб я ня быў ужо **неравыхаваны**. Сёньня мне ўжо мова „Нівы" добра лажыцца на сэрца, як родная і зразумелая. Наадварот, я ўжо не міруся з мовай былой усходняй Беларусі. Бачыце, такая мэтамарфоза. Але я адхіліўся ад нашай тэмы.

Прамаўлялі старшыні розных адзьдзелаў Беларускага Аб'еднаньня. Зьвярталі на сябе ўвагу старшыні з Бельску, Гародні, Сьвіслачы. Але прамовы скончыліся, пачалі налягаць на пітво і закусь, дайшло да таго градусу весялосьці, калі нельга абыйсьціся бяз песьні. Упяршыню пачуў я і сумна-цягучую „Люблю наш край, старонку гэту". Ды нечакана захацеў выступіць немец - яго назваў Тамашчык Гофманам. Ён нядрэнна валодаў расейскай мовай, але, п'яны, гаварыў нешта прыкрае і інжынер Тамашчык перапыніў яго, штосьці ціха сказаўшы яму панямецку. Гэты Гофман сядзеў з Тамашчыкам насупраць Ільляшэвіча і ўсё пыхцеў з сваёй люлькі. Ільляшэвіч паклікаў мяне (я сядзеў за іншым сталом), усадзіў каля сябе і папрасіў, каб і я прамовіў. Ды немец, рашчырванелы, злосна ўталопіўся ў мяне сваімі чырвонымі вачыма і ні з бухты-барахты выпаліў: „Партызан?"

Я зьбянтэжыўся, прамовы не гаварыў, пагадзіўся прачытаць колькі сваіх вершаў. Пляскалі мне ахвотна і мая ўкветленасьць, спрычыненая немцам, улеглася.

З задніх дзьвярэй у салю ўвайшлі два жаўнеры, гучна прывіталіся сваім „Жыве Беларусь!" І адказалі дружным „Жыве!"

Гэта было для мяне надзвычайнай падзеяй. Іхнае вітаньне скалынула мяне да глыбіні - упяршыню я пабачыў, пачуў беларускіх жаўнераў. Забягаючы наперад, скажу - хіба адсюль **пачалася** мая Беларусь, у гэтую часіну яна прайшла праз маё сэрца. Усьвядомленая, яна не давала мне ўжо быць раўнадушным. Неверагодна, людзі, якія толькі што здаваліся мне не-сваімі, умомант сталіся сваімі, зразумелымі, роднымі.

Ільляшэвіч мне сказаў, што тыя два жаўнеры - гэта беларускія хлопцы з Самаахоўы ў Беластоку. Дадаў, што беларусы траха не апанавалі Беластокам - нейкі, хоць і кароткі час, ягоным камэндантам быў беларус.

**Постскрыптум.**

Нешта я неспакойны за свой „Беластоцкі сшытак". Калі ў ім што ня так - няхай паважаны чытач спаганяе з рэдактара, Спадара Віталя Лубы - гэта ён угаварыў мяне напісаць успаміны з майго побыту ў Беластоку. Асабліва я баюся гісторыка Туронка - ён можа мяне злавіць на недакладнасьцях, а то й на мастацкай хлусьні.

1991

*(Працяг будзе)*




## Каханне ўсё пераможа

Марына скончыла тэхнікум і старалася паступіць ва універсітэт. Не ўдалося.

Мама ўладкавала яе працаваць у бюро. Марына цешылася, што ўдалося ёй атрымаць такую добрую пасаду. Думала, што праз год зноў будзе здаваць уступны экзамен.

Аднойчы ў горад, дзе жыла дзяўчына, прыехаў скульптар з Варшавы. Пазнаёміліся зусім выпадкова. Марына акурат у той дзень з сяброўкай пайшла ў кіёск каля чыгуначнага прыпынка купіць краскі для вачэй. Тут былі яшчэ па старой цане.

Калі дзяўчаты стаялі ў чарзе, прыехаў цягнік. Адзін з пасажыраў падыйшоў да Марыны і спытаў, дзе знаходзіцца Дом культуры.

Марыне спадабаўся незнаёмы. Рашыла ісці разам з ім. Незнаёмы сказаў, што называецца Марк і жыве ў Варшаве. Грошай мае шмат і свой дом. Усё добра, толькі вось у чым бяда, няма жонкі. Не можа знайсці сабе адпаведнай дзяўчыны. На развітанне спытаў, ці Марына хацела б сустрэцца з ім яшчэ раз.

Сустрэліся. Хлопец прасіў, каб Марына кінула ўсё і паехала з ім у Варшаву. Дзяўчына згадзілася. Бацькоў дома не было. Марына пакінула запіску з адрасам, узяла патрэбныя рэчы і паехала.

Бацькі расхваляваліся. Паехалі і забралі Марыну дадому. Маці ўпрасіла кіраўнічку, каб не звальняла дачку з працы.

Марына працавала, але думала аб каханым. Аднойчы Марк прыехаў і Марына зноў уцякла з ім. Бацькі паехалі туды, зрабілі скандал, а дзяўчыну прывезлі дадому. Нарачоныя званілі адно другому часта. Бацькі Марыны аб гэтым нічога не ведалі. Яны забаранілі ёй сустракацца з Маркам толькі таму, што ён на дзесяць гадоў быў старэйшы. Летам мама Марыны паехала ў санаторый, а бацька астаўся дома. Марына пазваніла Марку, каб прыехаў і забраў яе.

Сустрэліся на вакзале. Хлопец сказаў, каб Марына ўзяла толькі свой свіцер, бо ноччу будзе холадна, і ішла хутчэй на цягнік.

Марына заявіла бацьку, што ідзе да сяброўкі ўсяго на адну гадзіну. Бацька не сказаў нічога. Калі дачка не паявілася нанач, ужо ведаў, што зноў уцякла ў Варшаву. Знерваваны паехаў да сваёй маці.

Старая Дарка сказала, што не трэба разлучаць маладых. Яны хочуць быць разам, хай жывуць.

Марына была шчаслівая з Маркам. Марк не ведаў, што зрабіць, каб ёй дагадзіць. Заўсёды называў яе сваёй дарагой Марыначкай. Чатыры месяцы маладыя былі ў Варшаве. Пасля рашылі адведаць бацькоў Марыны і яе сваякоў. Маці, убачыўшы, што дачка прыгожа апранута і ўжо цяжарная, ветліва прывітала дачку і будучага зяця.

- Жывіце, дзеці, як хочаце, - сказаў бацька Марыны, - толькі вяселле зрабіць трэба, бо так не вельмі прыгожа.

Вяселле адбылося ў Варшаве. Гучнае было. Сяброўкі зайздросцілі Марыне такога мужа і прыгожай кватэры.

Нарадзілася дачка, пасля сын. Маладыя жылі згодна. Аднойчы рашылі паехаць на некалькі год на Захад, ажно ў Амерыку.

Марына і Марк пачалі збірацца ў падарожжа. Свой дом не пакінулі пустым. Нанялі кватарантаў.

У Амерыцы жылося ім добра. Скульптуры Марка падабаліся людзям. Ахвотна куплялі яго работы. Долары плылі і плылі ў кішэні Марка і Марыны. Сужонства прадоўжыла сваю пабыўку. Урэшце рашылі астацца ў Амерыцы. Жывуць далей згодна. Там нарадзіўся сын. Марына шчаслівая, што мае трое дзетак і добрага мужа. Час ад часу засумуе па радзіме, але ненадоўга.

Бацькі плануюць паехаць адведаць сваіх дзяцей.

**Аўрора**

*************************************




### ФАРШЫРАВАНЫЯ ПАМІДОРЫ

На 8 памідораў трэба ўзяць 2 звараныя бульбіны, 1 невялікую цыбуліну, 1 невялікі салоны селядзец, 2 крутыя яйкі, 4 лыжкі кіслай смятаны, муштарду, зеляніну.

Выбраць цвёрдыя памідоры, зрэзаць іх зверху, выняць сярэдзіну. Памідоры палажыць дзіркай уніз, каб выцек сок. Бульбу дробна нарэзаць, цыбулю пасячы, селядзец ачысціць і пасячы таксама. Усё перамяшаць са смятанай, муштардай і жаўткамі. Падрыхтаваныя памідоры напоўніць масай, палажыць іх на лісткі салаты, упрыгожыць зверху зелянінай і бялкамі яек.

### ФАРШЫРАВАНЫЯ АГУРКІ

На 4 агуркі трэба ўзяць 4 лыжкі варанай бульбы, сцертай на бурачанай тарцы, 2 лыжкі радыскі, сцертай таксама, зеляніну, 4 лыжкі кіслай смятаны, соль.

Агуркі перарэзаць напалову, выняць з іх семечкі, напоўніць пасоленай па смаку бульбай, перамешанай з радыскай, смятанай і пасечанай зелянінай.

### ПАШТЭТ З БУЛЬБЫ І КУРЫЦЫ

На 2 шклянкі стоўчанай варанай бульбы трэба ўзяць 30 дэкаў курынай пячонкі, 1 шклянку варанага курынага мяса, 20 дэкаў масла, соль, сцерты мускатны арэх (мушкаталовую галку) або перац, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, паўшклянкі смятаны (салодкай ці кіслай).

Памытую і асушаную пячонку падсмажыць на разагрэтым тлушчы і змалоць разам з мясам, а тады перамяшаць з бульбай, смятанай, маслам, зелянінай, прыправамі. Масу зміксаваць. Формачкі змазаць цёплым курыным тлушчам, напоўніць паштэтам, паставіць у халоднае месца.

Перад падачай паштэт выняць з формачак, упрыгожыць зелянінай.

**Гаспадыня**




Астроне! Мужаў бацька памёр, і прысніўся мне праз 3 дні пасля пахавання. Быў апрануты ў чорныя нагавіцы і модны турэцкі світар, чорны ў белыя ўзоры. Сядзеў на крэсле, а было гэта быццам у бальніцы. Мой муж пачаў гаварыць на тэму каня і воза, а бацька яму, што ён жа гаварыў, што конь і воз маюць быць для Сяpожы (майго мужа). Я паклікала наймалодшую сястру мужа: „Люся, маеш госця". Яна выняла з шафы ў шкляной талерцы халадзец з мяса і паставіла на ненакрыты стол (шафа і стол былі бліскучыя, цёмнага колеру). Бацька, аднак, не еў халадца і не ўставаў з крэсла. **Тамара**

Даражэнькі Астроне! Мне прысніўся мой бацька, а я ж ведаю, ты ўжо раней пісаў, што калі сніцца бацька (нават, калі ён ужо нябожчык), дык трэба спадзявацца пэўных клопатаў. Мы стаялі з бацькам і маёй маленькай дачушкай на пероне вакзала. Быццам мы з ёй некуды ад'язджалі, а бацька нас праводзіў. Падышоў поезд. Мы пачалі развітвацца, і тады я падумала, што лепш я пакіну яму свой кашалёк, каб ён яго пільнаваў, бо брацъ яго з сабой на канікулы вельмі небяспечна. І я аддала яго бацьку. Што можа абазначаць гэты дзіўны. **Ніна**

Тамара! Твой сон не абазначае нічога кепскага. Быў тут нябожчык, бальніца, а ўсё гэта абазначае спакой і добры паварот спраў. Сон гэты можа быць навеяны рэчаіснасцю: смерць цесця, падзел маёмасці. Але калі і сапраўды ён прадвяшчае будучыню, дык павінна ўсё ўлажыцца някепска. Халадзец і мэбля ў гэтым кантэксце не маюць асаблівага значэння.

Што датычыць твайго сну, Ніна, дык ён сапраўды абазначае клопаты, бадай, фінансавыя, бо ты ж свае грошы аддала ў рукі бацькі.

**Астрон**

## ДАВАЙЦЕ ПЕРАПІСВАЦЦА!

У адрас Дома радыё ў Мінску, на рукі аўтараў перадачы „Родная мова" прыйшлі чарговыя лісты ад зацікаўленых перапіскай з беларусамі Беласточчыны. Вось іх адрасы:

**222210, Мінская вобл., г. Смалявічы, вул. 60 год Кастрычніка, д. 23, Яблонская Рэгіна.** „30 гадоў я працавала ў школе выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры, а зараз на пенсіі. Вельмі адзінока і няўтульна сябе адчуваю, быццам скончылася ўсё жыццё. Магчыма новае знаёмства дапамагло б мне адчуць сябе крыху лепш. Маю магчымасць запрасіць да сябе чалавека ці сям'ю".

**231000, Гродзенская вобл., г. Смаргонь, вул. Юбілейная, д. 41, кв. 5. Кізік Таццяна.** „Мне 23 гады. Працую ў дзіцячым садзе. Вельмі хачу перапісвацца з кім-небудзь з беларусаў".

**225710, Брэсцкая вобл., г. Пінск, вул. Фядотава, д.2, кв. 59, Салофіна Лілія.** „Мне 42 гады, працую на фабрыцы верхняга трыкатажу, маю двое дзяцей. Спадзяюся, што гэта знаёмства дасць мне магчымасць больш даведацца аб жыцці беларусаў Беласточчыны, пабачыць Польшчу сваімі вачыма, запрасіць новых знаёмых да сябе..."

**222351, Мінская вобл., Валожынскі р-н, в.Мяжэйкі, Юрый Гедроіць.** „Мне 29 гадоў, адукацыя тэхнічная вышэйшая. Працую ў супрацьпажарнай часці г. Валожына. Жыву ў вёсцы. Жыццёвы кругагляд шырокі, цікаўлюся вельмі многім".

**Ала з Маладзечна.** „Мне 33 гадоў, замужняя, двое дзяцей (сын і дачка). Працуем з мужам на фабрыцы мастацкіх вырабаў". Лісты да Алы трэба дасылаць на адрас нашай рэдакцыі з прыпіскай : „Ала з Маладзечна".

***************************************




Сэрцайка! Можа нехта будзе з мяне кпіць, гаварыць, што я какетка, але, павер мне, я гавару чыстую праўду. Мне 23 гады. Я ўжо замужам. Дзяцей у нас няма. Мой муж вельмі добры чалавек, уся сям'я была за тое, каб я за яго выйшла замуж. Аднак жа, вялікага кахання як не было, так і няма. Каб мне ў 18 гадоў, калі я выходзіла замуж, хто даў сённяшні розум, я б за яго напэўна замуж не выйшла.

Што ў жыцці можа быць важнейшае за каханне, пачуцці?! Нічога! Вось і маё жыццё было нейкае шэрае і бясколернае, пакуль не пазнаёмілася я з іншым мужчынам. На жаль, у яго ёсць жонка і дзеці. Але мы прыпалі адно другому да густу. Пачалі сустракацца і тут я адкрыла неспадзявана для сябе радасць зносін паміж мужчынам і жанчынай. Са сваім мужам я практычна „адрабляла шарварак", бо фізічныя зносіны з ім мне не давалі ніякай прыемнасці. Проста не ўмеў ён мяне разбудзіць, а мо я была занадта маладая, калі ён узяў мяне...

Мой новы знаёмы рабіў са мною што хацеў, а кожная дробязь цешыла мяне. Як ён да мяне дакранаецца, як цалуе!

З маім мужам мы проста клаліся ў ложак, тады ён у лепшым разе мяне цмокнуў і... пачынаў сваю работу. А гэты ўмее стварыць атмасферу кахання вакол нас. Сустракаемся ў хаце яго сябра. Лёгкая музыка, пах добрай папяросы, далікатнае віно - усё гэта дае добрыя прадпасылкі для любоўнага кантакту. А пасля... ужо нічога не трэба. Хачу толькі яго, мілыя мне яго пяшчоты, пацалункі і... усё іншае. Ён не сароміцца нічога і просіць, каб не саромелася я. Ён пачынае кахацца ад пацалункаў там, дзе не ўсе цалуюць. Яму і мне з гэтым добра.

Ну, і што мне цяпер рабіць, скажы, Сэрцайка? На мужа свайго не магу глядзець - апрацівеў мне зусім. А ён бы хацеў браць мяне. Нашто я змарнавала пяць гадоў свайго жыцця, можна ж было б пражыць іх вельмі цікава... Трэба было б развесціся, але мой новы знаёмы не хоча разводзіцца з жонкай. Дык што мне з таго, калі застануся адна? Ці ж варта быць усё жыццё нейкім дадаткам да жанатага мужчыны?

**Ёля**

Ёля! А можа і ён калісьці развёўся б?! Але думаю, што толькі пры ўмове, што кахае цябе таксама моцна, як і ты яго. Ты „адкрыла" яго, ён для цябе - нешта незвычайнае, бо твой папярэдні мужчына не даў табе радасці ў каханні. А ён, магчыма, ужо меў не адну, і кожнай з іх мог даць тое, што дае цяпер табе, бо проста ён у гэтых справах добры! На жаль, тым „добрым" мужчынам дзяўчаты вельмі хутка прыядаюцца і яны пастаянна імкнуцца да нейкіх змен. Разводзіцца пры гэтым не спяшаюцца.

**Сэрцайка**

# Зорка

## Старонка для дзяцей



## КАНІКУЛЫ НА ПАНАДВОРКУ

- Канікулы можна правесці прыемна нават на ўласным панадворку, - гавораць дзеці з Белавежы - Марцін, Агнешка і Дарота.

Вось яны паставілі палатку ля блёку, у якім жывуць і ўяўляюць сабе, што знаходзяцца ў нейкім лагеры. Нават прабуюць пад палаткай начаваць. Аднойчы над мястэчкам праходзіла навальніца. Дзеці вельмі перапугаліся і ўцяклі дамоў - як добра, што ён пабач!

Тэкст і фота **Пятра Байко**.

************************************************************

## Добрая каза

Жыла-была ў старой казы маладая козачка. Такая прыгожая, што ўсе вачэй з яе не зводзілі. Птушкі козачцы песні пелі, а звяры, нават сам мядзведзь, перад ёй шапкі здымалі.

Але прышла пара козачцы развітацца з маці. Прыгледзеў козачку малады козлік і забраў да сябе. Далёка ад маці стала жыць цяпер козачка. На высокіх горных скалах, дзе дрэвы за сонца чапляюцца, дзе з крыніц днём і ноччу чыстая вада бруіцца, а каля іх шаўкавістая трава-мурава сцелецца.

Сумна стала адной казе. І вось сабралася яна аднойчы наведаць сваю дачушку. Праз балоты непраходныя дарога ляжала, праз лясы густыя, дзе ваўкі і іншыя драпежнікі вадзіліся.

Скача каза дзень, скача другі. Здарожылася і адпачыць вырашыла. На ціхай палянцы зялёнай траўкі паскубла, у лясным азерцы вады напілася, прыгледзела кучаравую рабінку, лягла пад ёй у цянёк і моцна заснула.

Доўга спала каза. Разбудзілі яе пад самы вечар буркатлівыя грымоты. Збіралася на навальніцу. Пабаялася каза ў навальніцу адна ў лесе блукаць. Стала яна на ноч кватэру шукаць. Пакуль шукала прытулку, дождж пайшоў. Страшна і холадна стала казе. Усякую надзею пагрэцца страціла.

Скача далей па лесе каза, аж бачыць хатка стаіць, а ў хатцы акенца свеціцца. Абрадавалася каза, да акенца падалася, паглядзець, хто там у хатцы жыве, у цяпле грэецца. Зазірнула ў акенца, а ля печы барсук мітусіцца: на кляновым лісці пірагі пячэ. Пастукала каза ў акенца.

- Барсук, барсук, адкрый хатку, пусці пагрэцца.

Паглядзеў барсук у акенца і гаворыць:

- Ведаю я такіх. Надоечы лісу пусціў пагрэцца, так яна ў мяне збанок малака разбіла.

Як ні прасіла каза барсука, каб той пусціў яе ночку пераначаваць, як ні маліла яго, барсук так і не пусціў яе ў сваю хатку. Наеўся пірагоў і задрамаў у цяпле. А каза знайшла каля рэчкі стажок сена, залезла ў яго - і перачакала дажджлівую ноч.

Раніцою дождж перастаў ісці, сціхлі буркатлівыя грымоты, на небе сонейка засмяялася. Пакінула каза стажок і ў дарогу адправілася.

Абрадавалася маладая козачка, калі ўбачыла сваю маці жывую і здаровую.

Амаль палавіну лета гасціла каза ў дачкі. З надыходам восені пачала яна дамоў збірацца. Трэба было на зіму хатку дагледзіць, сена пад паветку скласці. Развіталася каза і назад у далёкую дарогу адправілася.

Дзень скача, другі, бачыць на яе шляху барсуковая хатка стаіць. Таго самага барсука, які не пусціў казу ад дажджу схавацца. Наблізілася да хаткі і пачула, як нехта стогне каля яе. Глядзіць каза, аж барсук на зямлі курчыцца. Пазнаў барсук казу і гаворыць:

- Сабакі ледзь не загрызлі мяне. Дапаможы, каза, выратуй...

Просіць барсук казу, а з яго вачэй слёзы коцяцца. Дапамагла яму каза ў хатку зайсці, раны перавязала, накарміла і напаіла барсука.

- Не пакідай мяне, каза, пamру я без цябе. Пабудзь яшчэ, - просіць барсук.

Згадзілася каза і стала барсука даглядаць. Жыла ў яго да таго часу, пакуль ён на ногі не падняўся. А калі барсук зусім здаровым стаў, стала каза дамоў збірацца.

- Прапаў бы я без цябе, - сказаў ёй на развітанне барсук. - Добрая ты, каза.

**Іван Галубовіч**



Авяр'ян Дзеружынскі

## МЫШКІ Ў КОШКІ ГУЛЯЛІ

Мышкі ў кошкі раз гулялі,
Пра катоў пазабывалі.
- Самі кошкі мы, каты!..
Вось было з іх смехаты.
Пачалі скакаць,
Куляцца,
Весяліцца,
Забаўляцца.

Як дачуўся кот Мірон,
Точыць, вострыць
Кіпці ён.

Мыш старая кажа ціха:
- Кот ідзе,
От будзе ліха.

Паўцякалі мышкі ў норкі
І не стала больш гаворкі,
Каб калі, хоць трошкі,
Пагуляць у кошкі.

Вікторыя Віта

## Я ЎЖО ВЫРАС

Я прасіўся: - Братка мой,
ты вазьмі мяне ў забой!
Я ўжо вырас для работы,
быць шахцёрам мне ахвота.

Брат з усмешкай: - Што ж, брыгада
дапамозе будзе рада.
Толькі вось што, калі ласка,
ты памерай спярша каску.

Я надзеў... ледзь не схаваўся,
толькі рот адзін застаўся.
Не відаць куды ісці...
Значыць, трэба мне расці!

## АДУВАНЧЫКІ

Жоўтымі адуванчыкамі
луг пакрыўся росны,
быццам безліч сонейкаў
упала з нябёсаў.
Упала і загарэлася
ў аксаміце траў -
і ад таго луг цяпер
залацістым стаў.

*Пераклаў з украінскай мовы Валеры Бабей.*

## ЗАГАДКІ

Л. Аляксандрава

Усіх віншую
ад душы -
толькі адрас
напішы.

*

Па тунэлях
пад зямлёю
едзем летам
і зімою.

*

Шкло чароўнае
якое:
быў адзін я,
стала двое.

*Пераклаў з рускай мовы Валеры Бабей.*

**Адказы на загадкі шукайце на старонках „Зоркі".**

## МАМАЧКА

*Музыка Змітрака Яўтуховіча*
*Словы Леаніда Пранчака*

Словы цёплыя знайду
І пра маму верш складу.
Мілая, пяшчотная
Мамка мая родная.

Прыпеў:

- Мама, мама, мамачка, -
Я спяваю тоненька.
Я спяваю тоненька:
- Мама, мама, мамачка -
Ласкавае сонейка,
Ласкавае сонейка.

Словы шчырыя знайду
І пра маму верш складу.
Светлая заранaчка -
Дарагая мамачка.

Прыпеў.



### Таіса Мельчанка

Вяду урок я роднай мовы.
Пагляды светлыя лаўлю.
Кідаю асцярожна словы
У сэрцы, нібы у раллю.
Нясмелыя ліюцца гукі:
- Скажыце, што такое
гай? -
І цягнуцца, як крылы,
рукі:
- То ж светлы
ад бярозак край!
- А бацькаўшчына,
што такое?
... У вочках квецяць
васількі.
... Як жытні колас,
спеюць словы:
- Зямля, што нам.
далі бацькі.

**Беларускія гульні**

## ГАРАЧАЕ МЕСЦА

На зямлі абазначаюць рысай гарачае месца. Выбіраецца водзячы. Ён становіцца на некаторай адлегласці ад гарачага месца і ахоўвае яго ад астатніх ігракоў, калі тыя імкнуцца забегчы ў гарачае месца. Каго ён запляміць, той становіцца яго памочнікам, і яны разам ловяць астатніх. З павелічэннем ліку памочнікаў забягаць у гарачае месца становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Хто трапіць туды, можа адпачыць там некаторы час, але затым зноў павінен выбегчы і паспрабаваць зноў забегчы ў гарачае месца.

Злоўленым лічыцца той, да каго водзячы дакрануўся рукой.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

### З БАЛГАРСКАГА ГУМАРУ

*

- Чаму ты плачаш? - спытаў прахожы хлопчыка на вуліцы.
- Мама будзе мяне біць: яна дала мне леў, а я яго згубіў.
- Вось табе леў. Толькі перастань румзаць!

Узяўшы леў, хлопчык заплакаў яшчэ галасней.
- Чаму ты зноў плачаш?
- Бо, калі б я не згубіў таго лева, што дала мне мама, я меў бы два!..

*

Двое хлопчыкаў разглядаюць у музеі мумію, пад якой вісіць таблічка з надпісам: “2450 г. да н.э.”
- Што гэта азначае?
- Напэўна, нумар машыны, якая пераехала гэтага чалавека!

*

Электратэхнік, вярнуўшыся з работы, убачыў, што ў яго сына перавязаны палец.
- Што здарылася? Ты параніўся?
- Не, я злавіў пчалу, але яна была ізаліравана толькі з аднаго боку.

*

Наглядзеўшыся на малпу ў заапарку, малы спытаў у бацькі:
- Ці выпусцяць малпу на волю, калі яна стане чалавекам?

*

- Вы бачылі, як прыгожа малюе наш Петка? Петка, намалюй шклянку гарбаты.
- Салодкай ці без цукру? - спытаў вундэркінд.

*

- Уяўляеш сабе, - кажа хлопчык, - у нашых прадзедаў не было электрычнасці, ні радыё, ні тэлебачання. Не магу зразумець, як яны жылі!
- А яны таму і памерлі!

*Пераклаў на беларускую мову В.Бабей.*

**Адказ на загадкі: паштоўка, поезд у метро, люстэрка.**

## *Вершы Віктара Шведа*

### ТУТ ЧУВАЦЬ ТАКСАМА

Чутны грукат грому
У вясны пару.
Матуля дадому
Кліча дзетвару.

- Дык не трэба, мама,
Нас дахаты звацъ.
Тутака таксама
Добра ўсё чуваць.

### ПЫЛАСОС НА СЕНАКОС

Нейкі мужчына стрыг газон
Касілкаю малою.
А дзетанькі з усіх старон
Бягуць сюды гурмою.

Глядзіць на гэты сенакос
Малы цікаўны Слаўка:
- Першы раз бачу, пыласос
Нам ачышчае траўку.



************************************************************************

## ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА:




Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка”.

Спецыяльна для „Зоркі” прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

**PIĄTEK, 26.07.1991 r.**
PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry" - poranny magazyn rozmaitości
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie - Muzyczna krzyżówka
9.35 „Nowe przygody He-Mana" - serial anim. USA
10.00 „Szkoła dla rodziców"
10.25 „Janosik" (4) - serial TP
11.10 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 „Dziedzictwo Guldenburgów" - serial niemiecki
18.25 Studio Lato
19.00 „Express gospodarczy"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Miasteczko Twin Peaks" (13) - serial USA
20.55 Zespół publicystyki „Zapis" przedstawia...
21.35 „Siódemka" w „Jedynce"
22.40 Wiadomości wieczorne
23.05 „Tysiąc pytań" - teleturniej
23.50 „Dziedzictwo Guldenburgów" (10) - wersja oryginalna
0.15 BBC - World Service

PROGRAM II
7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 Język angielski (14)
8.40 „W labiryncie" - serial TP
9.35 Magazyn TV śniadaniowej
10.00 CNN
16.45 Powitanie
17.00 Program publicystyczny
17.30 „Cudowne lata" (22) - serial USA
18.00 - 21.30 Program regionalny
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Nie zawsze musi być kawior" (3) - serial niemiecki
22.50 „Obrazy, słowa, dźwięki" - program o sztuce
23.50 CNN
0.05 Noc z „Anteną 5" - pr. rozrywkowy z Wrocławia

**SOBOTA, 27.07.1991 r.**
PROGRAM I

7.00 „W sobotę rano" - magazyn informacyjno-gospodarczy
7.45 „Tydzień na działce"
8.15 „Matka" - reportaż
8.35 „Ziarno" - program red. katolickiej
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Walt Disney przedstawia"
10.25 „Na zdrowie"
10.45 „Kaliber'91" - magazyn wojskowy
11.10 Koncert życzeń
11.40 „Jak wam się podoba" - magazyn promocji teatralnych
12.25 „Żyć" - magazyn ekologiczny
12.55 „U siebie" - magazyn mniejszości narodowych
13.25 Wielki sport - koszykówka zawodowa NBA, zawody motocyklowe
14.55 „Czasy katedr" (7) - serial dok. prod. franc.
15.50 „Opoka"
16.05 Turniej Tańca Towarzyskiego (2)
16.30 „Skarbiec" - magazyn historyczny
17.15 Teleexpress
17.30 Tele-Audio-Video
17.55 Turniej tenisowy ATP
18.25 „Butik"
18.55 Z kamerГ wnrвd zwierzГt
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Pewnego dnia zapukasz do mych drzwi" (2) - film włoski
22.10 Wiadomości wieczorne
22.30 Sportowa sobota
23.00 Opole'91 - recital Krzysztofa Daukszewicza
23.40 „Suushime" - film włoski

PROGRAM I
7.25 „Przemijanie czasu" - program dokumentalny
7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 „Kapitan Planeta i Planetarianie" (20) - serial anim. prod. USA
8.35 Magazyn TV śniadaniowej
9.15 „Mądrej głowie" - program rozrywkowy W. Manna i K. Materny
10.00 CNN
10.15 Magazyn TV śniadaniowej
10.40 „Bolesne dojrzewanie Adriana Mol'e" (1) - serial ang.
11.05 „Tacy sami" - program w języku migowym
11.25 „Dookoła świata": „Tajemnice Batiku"
11.55 „Z wiatrem i pod wiatr" - magazyn żeglarski
12.25 Benefis Jana Kobuszewskiego
13.25 „Morski lud" (1) - film przyrodn. prod. ang.
13.55 „Chopin w rzeźbach Renesa"
14.25 „Ze wszystkich stron"
14.55 Program dnia
15.00 „Zezem" - serial TP
15.30 „Santa Barbara" - serial USA
17.00 „Potomkowie Jana i Cecylii" - program M. Maldisa (historia rodu Bohatyrowiczów)
17.30 „Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego"
18.00 Programy lokalne
18.30 „Raz, dwa, trzy" - program kabaretowy
19.00 „Dziewczyna miesiąca"
20.00 Sergiusz Prokofiew - w setną rocznicę urodzin. Koncert WOSPRiTV w Katowicach p/d Antoniego Wita
21.00 „Hale i Pace" - ang. pr. rozrywkowy
21.30 Panorama dnia
21.45 „Bez znieczulenia"
22.00 „Akatyst ku czci Bogurodzicy"
22.05 „Gafa za gafą" - film fab. franc.
23.25 CNN

**NIEDZIELA, 28.07.1991 r**
PROGRAM I

7.00 „Witamy o siódmej"
7.30 „Kraj za miastem"
7.55 „Po gospodarsku"
8.10 „Od niedzieli do niedzieli"
8.55 Program dnia
9.00 „Bliźniacy" - film fab. prod. czech.
10.30 „Przygody roślin" (7) - film dok. prod. franc.
11.00 „Notowania, czyli co się opłaca rolnikowi"
11.25 „Ściśle jawne" - wojskowy program publicyst.
11.50 Koncert życzeń
12.20 „Circom Regionale prezentuje"
12.50 Magazyn „Morze"
13.10 „Alfabet komediantów"
13.50 „Agromarket"
14.15 „Kazimierskie granie" - Kazimierz'91
14.40 „Pieprz i wanilia"
15.00 „Telewizjer"
15.40 Telewizyjny Teatr Rozmaitości
17.15 Teleexpress
17.30 Telewizyjna aukcja dzieł sztuki
17.40 Program rozrywkowy
18.10 Telewizyjna aukcja dzieł sztuki
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 „Kim jest ten chłopak" (1) - serial franc.
21.05 „7 dni - świat"
21.35 Sportowa niedziela
22.10 Wiadomości wieczorne
22.30 Rod Stewart live

PROGRAM II
8.20 Przegląd tygodnia (dla niesłyszących)
8.55 Film dla niesłyszących: „Kim jest ten chłopak" (1) - serial franc.
9.50 Program dnia
10.00 CNN - Headline News
10.10 „Jutro poniedziałek"
10.30 Program lokalny
11.00 Wybrańcy Melpomeny
11.30 Tryptyk - malarstwo Marzanny Beleć-Kuskowskiej
11.50 „Zbliżenia, czyli to i owo o filmie"
12.30 „Express Dimanche"
12.45 Gość „Dwójki"
13.10 100 pytań do ...
13.50 Przecież to znamy! (6)
14.10 „Przyłbice i kaptury" (5) - serial TP
15.10 Studio Sport - Formuła I
15.30 Muzyczna Antena 5
16.00 „Wędrówki ludów nad Pacyfikiem" (7) - serial dok. prod. austral.
17.00 Program dnia
17.05 Studio Sport - Formuła I
17.30 „Bliżej świata"
18.30 „Uśmiech z Galicji" - „Prywatna Izba Wytrzeźwień"
19.00 „Wydarzenie tygodnia"
19.30 Galeria „Dwójki" - Rajmund Ziemski - malarz
20.00 Przeboje Bogusława Kaczyńskiego
21.00 Turniej tenisowy ATP
21.30 Panorama dnia
21.45 „Eden utracony" (2) - serial ang.
22.35 Gość „Dwójki"
22.45 Program rozrywkowy
23.35 CNN

**PONIEDZIAŁEK, 29.07.1991 r.**
PROGRAM I

16.55 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 „Dziedzictwo Guldenburgów" - serial niemiecki
18.25 Studio Lato
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr TV - Spektakl na bis: S. Maugham - „Jej mężowie"
21.40 Program rozrywkowy
22.15 Wiadomości wieczorne
22.35 Reportaż o Kubie
23.25 „Dziedzictwo Guldenburgów" - serial niem. (wersja oryginalna)
23.50 BBC - World Service

PROGRAM II
16.45 Powitanie
17.00 „Zwierzęta wokół nas"
17.30 „Cudowne lata" (23) - serial USA
18.00 Program lokalny
18.30 Przegląd Kronik Filmowych
19.00 „Ojczyzna-polszczyzna"
19.15 „Za kierownicą"
19.25 Zapraszamy do „Dwójki"
19.30 „W zaczarowanym parku" (1) - żart muzyczny
20.00 „Mój świat" - program B. Marguerritta
20.30 „Szkoła cudów" - J. Longo - niekonwencjonalne metody leczenia
21.15 Maraton trzeźwości
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Wielki Chułamita" (1) - serial radz.
22.55 Studio im. Andrzeja Munka - „Panienki" - film pol.
23.30 CNN

**WTOREK, 30.07.1991 r.**
PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie najmłodszych ze smokiem
9.40 „Przygody misia Ruxpina" - serial anim. ang.
10.00 „To się może przydać"
10.25 „Matyas Sandor" (5) - serial węg.-franc.
11.20 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 „Dziedzictwo Guldenburgów" (12) - serial niemiecki
18.25 Studio Lato
18.55 W Sejmie i Senacie
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
19.55 Koncert L. Pavarottego
21.55 „Telemuzak" - magazyn muzyki rozrywkowej
22.35 Wiadomości wieczorne
22.55 „Dziedzictwo Guldenburgów" (12) - serial niemiecki (wersja oryginalna)
23.20 BBC - World Service

PROGRAM II
7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 Język angielski (15)
8.40 „Santa Barbara" - serial USA
9.25 Magazyn TV śniadaniowej
10.00 CNN - Headline News
16.45 Powitanie
17.00 „Moda i muzyka"
17.30 „Cudowne lata" (24) - serial USA
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna
18.50 „Wademecum teatralne" - Witold Gombrowicz
19.30 „Mój życiorys skończył się i zaczynał wiele razy" - film dok.
20.00 Przegląd Piosenki Aktorskiej - Wrocław'91
21.00 Piknik Story-Piknik Country - Mrągowo
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Sherlock Holmes (5) - serial ang.
23.15 CNN

**ŚRODA, 31.07.1991 r.**
PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie - „Co w lecie piszczy"
9.35 „Safari" - serial czechosł.
10.00 „Przyjemne z pożytecznym"
10.25 „Dynastia" - serial USA
11.15 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 „Murphy Brown"(1) - serial USA
18.30 Studio Lato
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Dynastia" - serial USA
20.55 Rozmowa z rzecznikiem praw obywatelskich
21.10 Kabaret Starszych Panów
22.20 Wiadomości wieczorne
22.40 Rozmowy z Nikodemem -„Po wizycie Ojca Św."
23.25 „Murphy Brown" - serial USA
23.55 BBC - World Service

PROGRAM II
7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 Język angielski (16)
8.40 „W labiryncie" - serial TP
9.30 Magazyn TV śniadaniowej
10.00 CNN
16.45 Powitanie
17.00 „Ekostres" - o pierwszej ekologicznej szkole powszechnej
17.30 „Cudowne lata" (25) - serial USA
18.00 Program lokalny
18.30 „M.A.S.H." (12) - serial USA
19.00 „Rebusy" - teleturniej Wojciecha Pijanowskiego
19.30 „W zaczarowanym parku" (2)
20.00 Publicystyka kulturalna
20.55 „Punkt widzenia"
21.30 Panorama dnia
21.45 „Bilans"
22.00 „Dziewczyna z Mazur" (5) - serial TP
22.55 Sport
23.05 „997" - kronika kryminalna
0.05 CNN

**CZWARTEK, 1.08.1991 r.**
PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Janka" - serial polsko-niemiecki
10.10 „Sto lat" - magazyn ubezpieczeń społecznych
10.20 „Giełda pracy - giełda szans"
10.45 „Van der Valk" (4-ost.)
12.25 Aktualności telegazety„
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 „Murphy Brown" (2) - serial USA
18.50 Magazyn katolicki
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Van der Valk" - serial krym. ang.
21.50 Goście Andrzeja Zarębskiego
22.10 „Pegaz"
22.40 Wiadomości wieczorne
23.00 Sprawa dla reportera
**23.45 „Murphy Brown" - serial USA**
**0.10 BBC - World Service**

**PROGRAM II**
**7.55 Powitanie**
**8.00 CNN**
**8.10 Język angielski (17)**
**8.40 „W labiryncie" - serial TP**
**9.35 Magazyn TV śniadaniowej**
**10.00 CNN**
**16.45 Powitanie**
**17.00 „Giełda" - magazyn kupców i przemysłowców**
17.30 „Cudowne lata" (26) - serial USA
18.00 Program lokalny
18.30 „Pod wspólnym dachem" (5) - serial franc.
19.00 „1 sierpnia" - film dok.
19.30 „Henryk Stażewski" - film dok.
20.00 Studio sport - 2+4, czyli o sportach motorowych
21.00 Ekspres reporterów
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „100 lat Carneggie Hall w Nowym Jorku" (2)

---

### СЛУХАЙЦЕ БЕЛАСТОЦКАЕ РАДЫЁ

**На ультракароткіх хвалях (УКФ -72,8 Мгц у Беластоку і 72,68 Мгц у Сувалках) - штодзень ад гадз. 5.30.**

**Перадачы на беларускай мове:**

**-„Пад знакам Пагоні"-штодзень у 8.50 і 18.45**
**-„Духоўныя сустрэчы"- у суботу ў 8.50.**
**-„Перад выхадам у царкву"- у нядзелю ў 7.30.**
**-„Беларускі радыёчасопіс"- у нядзелю ў 8.30.**
**-„Для школы і для дому"- у сераду ў 8.50 і 18.45.**
**-„Беларускі канцэрт пажаданняў" (платны) - у суботу ў 18.45.**

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

## НОЧ У ГАРОДНІ НА ПЯРЭСЕЛЦЫ

Вось і цёплая ноч агарнула двары,
зоркі мілыя свецяць каханым,
не дурэюць каты, не гараць ліхтары,
пахне родным і нечым духмяным.
Ня Пярэселцы сон забірае правы,
адпачнем жа ад справаў і сварак,
толькі ж дзе там! - да болю давёў галавы
той суседаў шпаністы падшпарак.
З Варшавы ён
за міліён
прывёз магнітафон
і малоціць, як звон,
у гнілой забудове:
„Пазьняк Зянон,
Пазьняк Зянон
не п'е адэкалён,
Пазьняк Зянон
размаўляе на мове...".
Нам жа рана ўставаць, нам на мітынг ісці,
мы і так нацярпеліся досыць,
толькі што сапліякі разумеюць ў жыцці?! -
не гандлююць, не цягнуць, не носяць.
Што за матка яго? І дзе ходзіць стары?!
Распусцілі ў канец хулігана!
А ты круцішся тут, як у чорным віры,
і табе аніякай пашаны.
А той сапляк
такі здыхляк,
а шкодны як страмляк!
І развёў тут, - раз-так! -
дзікі рогат і лямант:
„Зянон Пазьняк,
Зянон Пазьняк
не робіць быле як,
Зянон Пазьняк
прыціскае парлямант...".
- Жонка, дай карабін! Звар'яцелі, бічы!
Я іх зараз усіх супакою!
Але што з бабы ўзяць?! "Не крычы, памаўчы,
забяруць, як за п'янку вясною...".
Кажа баба мая, каб хітрэйшы я быў
і не лез, бо як зменіцца ўлада,
буду жыць, як і жыў,
ды рабіць, як рабіў,
ды яшчэ не дастану пасады.
- Ты не бі ў мядзяк,
а рабі вось як:
схадзі на той скразняк
ды скажы ў мікрафон
пра зямлю і свабоду.
„Спадар Пазьняк,
спадар Пазьняк,
за цябе кулак і бядняк -
дык рабі ты закон
і дай волю народу!".






Мал. Адама Сяменчыка

## СМЕЙЦЕСЯ НА ЗДАРОЎЕ!

У дырэктара школы пытаюць:
У вашай школе заўсёды так холадна?
- Не, толькі зімой!
- А чаму ў школе так цёмна?
- Дык жа ў нас вячэрняя школа!

*

Алесь старанна капае яму на агародзе.
- Ты што робіш? - пытаецца ў яго бацька.
- Настаўніца матэматыкі дала заданне знайсці квадратны корань. Вось я яго і шукаю!

*

Сустрэліся двое сяброў. Разгаманіліся. Размова зайшла пра жонак.
- Ведаеш, - кажа адзін, - мая Галя дыхнуць мне не дае...
- А мая Зіна, - скардзіцца другі, - дыхаць не дае. Як толькі ў хату, яна адразу: А-ну, дыхні!..

*

У курортны горад прыехаў адзін хворы мужчына і пытаецца ў першага сустрэчнага:
- Скажыце, гэта праўда, што тутэйшае паветра ставіць чалавека на ногі?!
- Чыстая праўда. Я тут нарадзіўся і, як бачыце, стаю на нагах...

Лекар кажа пацыенту:
- Падыміце левую нагу.
Той падняў.
- А зараз правую.
- А на чым жа я стаяць буду?! - абурыўся той.

*

Лекар-акуліст выпісвае хвораму рэцэпт і кажа, што ён павінен закапваць вочы тры разы на дзень. Хворы ўдакладняе:
- Да яды, ці падчас яды?

*

П'яны мужчына вярнуўся дахаты і ніяк не можа патрапіць ключом у замок. Злуецца:
- Усяго мог чакаць ад жонкі. Але такога, каб схавала дзірку ад замка, дачакацца не мог.

*Запісаў і пераклаў з украінскай мовы*

*Пятрусь Капчык*

## ПАСЛЯ СКАРАЧЭННЯ

Нехта спытаў: „Ці працуе ў вас
Якаў Фаміч Падымаеў?"
„Не, не працуе, - пачуўся адказ,-
Але пасаду займае".

**Сяргей Дзерышаў**

## ВІРАВАНКА

/чатырохлітарная/

Першую літару слова трэба ўпісаць у клетачку з лікам, астатнія - згодна з рухам гадзіннікавых стрэлак. Як акрэсленні падаюцца тры назоўнікі, якія асацыіруюцца з адгадваемым словам.

1/ цвёрдасць, ядро, ляшчына; 2/ Афрыка, чэрнь, раса; 3/ ніва, гаспадар, футбол; 4/ валы, саха, поле; 5/ пушча, карова, цар; 6/ дзеці, вершы, Беларусь; 7/ неба, збожжа, гарох; 8/ малако, водка, шкло; 9/ размова, жэсты, нямы; 10/ твар, валасы, вуха; 11/ поле, кролік, паляўнічы; 12/ татары, армія, навала; 13/ палосы, танк, звер; 14/ немцы, старажытнасць, племя; 15/ экран, план, акцёр; 16/ колас, паэма, Янка; 17/ спорт, круг, снарад; 18/ пацалунак, труба, зубы; 19/ забарона, слова, рэлігія; 20/ лапаць, стол, рука.

**"ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжыванку, змешчаную ў н-ры 24.**

**Упоперак:** пыласос, тропік, радно, палітыка, шпак, алімпіяда, твар, лазня, саланіна, торба, воўк, траса, атака.

**Уніз:** парашут, лодка, сноп, стол, порткі, скнара, апілкі, карта, палатка, Дон, "Зорка", ягада, свет, лета, „Ніва".

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Ірэна Лукша з Семяноўкі і Хрысціна Місеюк з Карыцкаў.




❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖

## ЗАКЛІКІ ДА...

Армія - наш рулявы!

*

Павысім колькасць рублёў!

*

Эй, рухнем!

*

Пралетары ўсіх краін, дапамажыце!

*

Дачы партыі - дачы народа!

*

Павысім зніжэнне ўзроўню!

*

Паскорым тармажэнне!

*

Знізім сабекошт жыцця!

*

Перагонім усё!

**Уладзімір Арлоў**
Пераклаў з рускай *В. Бабей*

**************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк ,Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- lipiec - 8.000 zł.
- sierpień - 8.000 zł
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.